PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (1904) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 8 ЛІСТАПАДА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ...ПАКУЛЬ БУДУ ЛЮДЗЯМ ПАТРЭБНЫ



Бадай, няма на Беласточчыне такога чалавека, які б цікавіўся беларускай песняй і не ведаў Сцяпана Копу. Здаецца, не было ніводнай больш значнай імпрэзы на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў, у якой не выступалі б яго выхаванцы, а ён сам не браў бы ў ёй удзелу як рэжысёр, дырыжор хору ці проста як акампаніятар. Быў сааўтарам песенных аглядаў, беларускіх фестываляў, ночы Купалы. Цяжка пераацаніць яго ўклад у развіццё музычнай культуры Беласточчыны. Без такіх людзей, як Сцяпан Копа, ніва беларускай песні магла б даўным-даўно ператварыцца ў музычную пустыню.

Нарадзіўся на Бельшчыне, у Малінніках. Калі пачалося зацікаўленне беларускай песняй? Сцяпан гэтага не памятае. Памятае толькі, што ад маленства мясцовыя называлі яго „саліст". Выступаў на ўсіх школьных урачыстасцях.

Быў год 1959-ы. Якраз Сцёпка канчаў сёмы клас. Кіраўнік школы Юзаф Монсюль запрапанаваў яго бацьку купіць гармонік ад свайго зяця, які прыехаў аж з Варшавы. Ваш сын такі здольны, сказаў ён, увесь час спявае, купіце яму гармонік!

Быў гэта стары гармонік „Hohner" на 24 басы, але і на яго ў Сцёпчынага бацькі грошай не было. Пайшоў ён па хатах пазычаць. У аднаго браў па 100 злотых, у другога — па 200. Грошы тады мелі іншую вартасць! І так назбіраў патрэбныя 2300 злотых. А тады паехаў пад Голдап на лесараспрацоўкі, каб аддаць гэтыя грошы. Працаваў там цэлую зіму.

І такім чынам Сцёпка пачаў іграць на гармоніку. Сам, без ніякіх настаўнікаў.

Ноты навучыўся чытаць толькі будучы вучнем Бельскага беларускага ліцэя. Там жа ад 1959 да 1963 года ён быў у духавым аркестры. Сапраўдную музычную адукацыю атрымаў толькі на аддзяленні музыкі Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Ад гэтага часу рыхтаваўся да прафесійнай працы.

Калі прыйшоў ён у Гарадок? Было гэта 1 верасня 1967 года. Да гэтага часу два гады вучыў дзяцей музыцы ў школе ў Трасцянцы.

— Навесну шэсцьдзесят сёмага прыехалі ў Трасцянку Коля Матэйчук, які быў кіраўніком дома культуры ў Гарадку, і дырэктар тамашняй пачатковай школы Ян Бараноўскі, — расказвае Сцяпан Копа. — Ведалі яны, што шаную беларускасць. Прасілі, каб я перайшоў да іх. Прадставілі ўмовы працы ў Гарадку. Я меў бы весці перш за ўсё музычнае выхаванне ў пачатковай школе і там жа хор ды музычны калектыў, а акрамя таго працаваць з хорам пры доме культуры ў Гарадку. Я згадзіўся.

Ад гэтага часу жыццё і праца Сцяпана Копы былі цесна звязаны з гарадоцкім хорам. Нават ужо тады, калі пераехаў у Гараднянны каля Беластока, дзе мелі дом бацькі жонкі, і распачаў працу ў пачатковай школе н-р 6 у Беластоку (1974 год), калі будаваўся, калі заканчваў Вышэйшую педагагічную школу ў Быдгашчы, а пасля ў Кельцах зрабіў магістэрыюм, — заўсёды, без перапынку прынамсі раз у тыдзень даязджаў у Гарадок на рэпетыцыі хору. Там жылі цудоўныя людзі!

На хлеб зарабляў у школе, быў таксама акампаніятарам дзіцячага калектыву „Іскрынкі" са школы н-р 22, шмат гадоў вёў працу ў музычным агніску БТМ, але душою быў з беларускай песняй.

У 80-ыя гады было заснавана музычнае агніска н-р 7 пры Беларускім таварыстве. Сцяпан Копа быў яго дырэктарам. Заняткі вялі добрыя настаўнікі па класу гітары, акардэона і фартэпіяна. Агніска праіснавала 4 га-

☞ Працяг на стар. 8.

## ХМАРЫ НАД СКАНСЭНАМ

— Каб я ведаў чатырнаццаць гадоў таму назад, які цяжар бяру на свае плечы і якім прыкрасцям буду падвяргацца, ніколі за гэта не ўзяўся б, — гаворыць з горыччу Анатоль Адзіевіч.

А. Адзіевіч з'яўляецца душой пабудовы скансэна ў Белавежы. Гэту прыгожую ініцыятыву ратаваць прападаючыя на нашых вачах аб'екты драўлянага будаўніцтва рэалізуе ён супольна з іншымі людзьмі, якія так як і ён, паходзяць з поўдня Беласточчыны. На пляцы, які раней быў натарыяльна выкуплены, паявіліся вятракі, старыя дамы, клуня...

Па-рознаму нам укладалася, — працягвае А. Адзіевіч. — Частка саўладальнікаў ужо забыла пра ідэю, якая спадарожнічала нам на пачатку. Нягледзячы на розніцы ў поглядах заснавальнікаў і іх уклад у пабудову — скансэн усё ж узнік. Але ліха не спіць! Дало яно пра сябе знаць у час змены мясцовых гмінных улад.

— Пачалі мы адчуваць непрыхільнасць, — сцвярджае шэф скансэна. — Два гады назад хацелі мы выкупіць пляц па другі бок дарогі. Справу гэтую ўзгоднілі мы яшчэ з былым начальнікам Белавежскай гміны Яўгенам Паўлючуком, які аказаў нам шмат прыхільнасці і канкрэтна падтрымоўваў нашу ініцыятыву. Было нават прынята адпаведнае рашэнне. На жаль, яно анулявалася яго наследнікам, спадарыней войт. Звярнуліся мы тады да ваяводы — без выніку, затым да міністра сельскай і харчовай гаспадаркі — тое ж самае! У рашэнні начальніка гміны вышэйшыя ўлады не дагледзеліся кансультацый з жыхарамі салэтства Застава, хаця фармальна зараз грунт не з'яўляецца іх уласнасцю. Не памагла нам таксама апеляцыя ў Начальны адміністрацыйны суд. Пры нагодзе пераканаліся мы, што ў дзяржаўнай адміністрацыі царствуе поўная неразбярыха, не хапае ясных правілаў. Увесь час у гміне ішло ганенне на нас.

Працаўнікі скансэна, усяго некалькі чалавек, у ліпені мінулага года пачалі франтальную атаку. У вёсцы Застава былі сабраны подпісы некалькіх жыхароў пад пратэстам, накіраваным войту гміны, у якім патрабуецца забраць грунт, на якім знаходзіцца скансэн.

Улетку мінулага года ў справе скансэна адбылося пасяджэнне Рады гміны. Але аб гэтым не паведамілі нас і не запрасілі. У галасаванні над лёсам аб'екта быццам пераважалі галасы за яго ўтрыманне. Дзякуючы таму, што на пасяджэнні прысутнічаў член Навуко-

☞ Працяг на стар. 3.



### НЯМА ПРОСТЫХ АДКАЗАЎ

Апынуліся мы цяпер у даволі складанай палітычнай грамадскай і эканамічнай сітуацыі, якая многае змяніла ў жыцці беларускай грамадскасці ў Польшчы. Ранейшыя структуры страцілі манаполію. Узніклі новыя арганізацыі і выданні, што выклікала своеасаблівую канкурэнцыю, а пры нагодзе выявіла ўсе магчымыя канфлікты. Публічна прагучалі выказванні дзеячаў наконт здарэнняў і з'яў у нашым руху. У большасці былі гэта простыя адказы, якія не ўлічваюць складанасцей сітуацыі. Аўтары выказванняў не заўважаюць іх або з палітычнай прадузятасці, або з інтэлектуальнай ляноты.

Калі сталі нарастаць страсці вакол "Нівы", многія загаварылі аб спадзе тыражу нашага тыднёвіка. Адны сцвярджалі, што "Ніва" адарвалася ад вёскі і таму людзі яе не чытаюць, другія - што газета стала малаінтэлігентнай. Калі б так сапраўды было, хапіла б выправіць вышэй названыя хібы і тыраж маментальна б павысіўся. Аднак аўтары гэтых апіній забылі /або не хацелі памятаць/, што наша вёска на працягу апошніх дзесяткаў гадоў абязлюдзела, а маладыя пераехалі жыць у гарады, што перастала функцыянаваць ранейшая падпісная сістэма / клубы "Рух" у кожнай большай вёсцы, падпісныя кампаніі, якія актыўна праводзіліся паштовымі ўстановамі/, што павысіліся цэны газет і збяднела грамадства. Калі ідзе пра інтэлігентнасць газеты, дык хіба чытачы заўважылі, што ў "Ніву" пісалі і пішуць наогул інтэлігентныя аўтары і таму, мяркую, цяжка называць яе малаінтэлігентнай.

Клопаты характэрны не толькі "Ніве". Змагаюцца з імі і ўсе іншыя арганізацыі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі. Адным з цяжкасцю прыходзіцца знайсці месца ў новай рэчаіснасці, другім не ўдаецца замацаваць свае ўплывы ў грамадстве. А ў беларускай грамадскасці далей адбываецца негатыўныя асіміляцыйныя з'явы - змяншаецца лік людзей, якія ведаюць беларускую мову, падае лік вучняў якія яе вывучаюць /нядаўна і за гэта абвінавацілі "Ніву"/, людзі не купляюць і не чытаюць беларускіх выданняў, а маладыя брацчыкі дамагаюцца ўвесці ў цэрквы ўсім зразумелую польскую мову.

Галоўнай мэтай усіх арганізацый здаецца быць захаванне беларускага этнасу на Беласточчыне. Сёння робяць гэта кожны паасобку, абвінавачваючы іншых у сваіх няўдачах. Выказваюцца пры гэтым простыя адказы, якія падмацоўваюць свае тлумачэнне з'яў.

У складаных пытаннях рэдка бываюць простыя адказы. Іх вырашэнне таксама бывае складаным і дзеля гэтага патрэбна садзеянне усіх зацікаўленых справай. А ў нас далей распальваюцца эмоцыі.

**В. ЛУБА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Увыніку інтрыг, якія праводзіла Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Міністэрства культуры пазбавіла нас „Нівы", якая была на працягу трыццаці пяці гадоў нашым органам. Беларускае таварыства зрабіла з „Нівы" тыднёвік даступны для ўсіх беларускіх арыянтацыяў і не гледзячы на гэта Міністэрства зрабіла неразважны крок, які можа давесці да поўнага ўпадку гэтай газеты. Калі „Ніва" ў далейшым будзе нападаць на Таварыства, то нашы члены перастануць яе чытаць, што давядзе яе да гібелі.*

*(Асновы справаздачна-выбарчай кампаніі Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, Беласток 1992).*

Як бачым, БГКТ пачало падрыхтоўку да з'езда. **Арыянтацыя** Таварыства прынцыповая — на дэзарыентацыю сваіх членаў. Nihil novi sub sole. А дарэчы: каб „Ніва" арыентавалася адно на Таварыства і яго членаў, дык даўно ўжо дайшла б да пагібелі.

* * *

*Горш, чым было, не стане.*
*(Звязда, 20.10.1992)*

Стане, таварышы, стане. Лепш ужо было.

* * *

*Дагавор аб звычайных узбраеннях у Еўропе ратыфікаваны ўчора нашым парламентам. Аднак некаторыя дэпутаты лічаць, што Беларусь будзе прадаваць танкі.*
*(Звязда, 22.10.1992)*

Беларусь нежалезная?

* * *

*Беларусь —дзяржава бурштынавая.*
*(Звязда, 22.10.1992).*

І гэта някепска.

* * *

*Каб толькі мы жабракамі не сталі...*
*(Народная газета, 21.10.1991)*

Трэба прадаваць танкі.

* * *

*...дырэктар 19-й школы спадар Варывода заяўляе, што ляжа ледзь не трупам, але не дапусціць беларусізацыі...*
*(Народная газета, 20,10.1992)*

Нарэшце штосьці канкрэтнае. Беларусізацыя пойдзе па трупах.

* * *

*Станіслаў Шушкевіч: „Барысаў не ўступае ні Сэулу, ні Рыо-дэ-Жанэйра!„*
*(Народная газета, 17.10.1992)*

А Астап Бендэр пёрся ўсё-ткі ў Рыо-дэ-Жанэйра. Мусіць, не чуў ён пра Барысаў.

* * *

*2600 ręcznych miotaczy gazu znaleźli w nocy z poniedziałku na wtorek w pociągu Berlin-Szczecin na przejściu granicznym w Kołbaskowie funkcjonariusze służb granicznych... Tydzień wcześniej, również w Kołbaskowie, w pociągu Berlin—Gdynia znaleziono 1450 miotaczy gazu.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 248)*

Падрыхтаванні да зімы ідуць поўным махам.

* * *

*Z udziałem 1428 delegatów reprezentujących wszystkie regiony Rosji, a także delegacji ze wszystkich byłych republik ZSRR odbył się Kongres Założycielski Frontu Ocalenia Narodowego. (...) Front, który ktoś nazwał sojuszem byłych komunistów z przyszłymi faszystami, postawił za cel minimum obalenie Jelcyna, a maksimum — odbudowę imperium radzieckiego w granicach b. ZSRR.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 252)*

Значыць, беларускасць у свеце абмяжуецца ўсяго да пару гмінаў на Беласточчыне. Але й гэта няпэўнае.

# З мінулага тыдня

- Усходняя Еўропа дзесяцігоддзямі змагалася з камунізмам і перамагла. Сёння аднак складаецца такое ўражанне, быццам яна не ведае, што зрабіць з пладамі гэтай перамогі, - сказаў **былы прэзідэнт Чэха-Славакіі Вацлаў Гавел**. - Захад павінен дапамагчы Усходу не толькі таму, што той ёсць бедны. Тут ідзе не толькі аб грошы, але таксама аб палітычную і духоўную падтрымку.

**Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і старшыня Дзяржтэлерадыё Аляксандр Сталяроў** пабывалі ў Польшчы на юбілеі 40-годдзя Польскага тэлебачання. 27 і 28 кастрычніка госці наведалі Беласток, дзе сустрэліся з прэзідэнтам горада **Лехам Руткоўскім** і дырэктарам Беластоцкага радыёвяшчання **Ежы Мушынскім**. У БГКТ гасцей прынялі намеснік старшыні ГП **Янка Сычэўскі** і член Рэвізійнай камісіі **Міхась Хмялеўскі**.

**У Варшаве адбыўся нечарговы агульны сход Таварыства "Wspólnota Polska"**, на якім старшынёю паўторна быў выбраны **праф. Анджэй Стэльмахоўскі**. Удзельнічалі ў ім старшыні польскіх арганізацый з былога Савецкага Саюза і толькі адзін прадстаўнік палоніі з Захаду. Дэлегаты звярнуліся ў сеймавую Камісію лучнасці з палякамі за граніцай з прапановай праявіць заканадаўчую ініцыятыву па стварэнні Фонду дапамогі палякам на Усходзе. Была створана рабочая група, якая апрацоўвае праграму дапамогі палякам у былым СССР.

**На сустрэчы пасла ФРГ Франца Бертэле** з прадстаўнікамі Грамадска-культурнага таварыства нямецкай нацыянальнай меншасці ў Польшчы дэпутат у Сейм **Генрык Кроль** запранаваў стварыць фонд, фінансаваны нямецкім урадам, які выплачваў бы дадаткі да пенсіі для каля 20 тысяч жыхароў Шлёнска - нямецкіх салдат з перыяду II сусветнай вайны і для тысячы ваенных удоў. Удзельнікі сустрэчы звярнуліся таксама з просьбай дапамагчы ў зарганізаванні паўсюднага навучання нямецкай мовы ў прадшколлях і школах, у якіх пераважае нямецкая меншасць.

**Помнік маршалу Канстанціну Ракасоўскаму ў Легніцы**, які стаяў перад сядзібай курыі біскупяй легніцкай дыяцэзіі /раней быў тут Дом савецкага афіцэра/, быў ноччу зняты з п'едэстала і перавезены на склад працаўнікамі мясцовага Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі. Перад помнікам праводзіліся ўрачыстасці, арганізаваныя савецкім войскам. Апошняя ўрачыстасць адбылася 9 мая 1991 года.

**На кантрольна-прапускных пунктах у Тарэспалі і Кукурыках** уведзены супольныя польска-беларускія мытныя і пашпартныя кантролі. Павінна гэта зменшыць чэргі турыстаў перад гранічным шлагбаўмам. **А на КПП Брузгі** каб уехаць у Польшчу трэба чакаць шэсцьдзесят гадзін, тады калі на польскім баку, **у Кузніцы**, выязджаецца ў Беларусь без чэргаў. Затрымка на беларускім баку - вынік дэталёвага кантролю дакументаў і багажоў тамашніні мытнікамі. Публічнай таямніцай з'яўляецца тое, што можна абмінуць чаргу, даўшы службоўцам хабар - пяцьдзесят долараў з аднай машыны.

**На станцы каля Райгрода** /ломжынскае ваяводства/ ад турыстычнай газавай пліткі загарэўся аўтобус, якім падарожнічала дзевятнаццаць латышскіх турыстаў з мясцовасці Ліепая. Пяць пасажыраў згарэлі ў аўтобусе, чатыры - трапілі ў бальніцы ў Граеве і ў Аўгустове.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**КАМУНІСТЫ ВЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ, АЛЕ ПРАТРЫМАЛІСЯ НЯДОЎГА**

Усё змяшалася ля Дома ўрада ў дзень адкрыцця дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Раніцай дэпутаты, што спяшаліся на пасяджэнне Высокага Сходу разам са звыклымі ўжо пікетамі пад бел-чырвона-белымі штандарамі ўбачылі на плошчы Незалежнасці людзей з напаўзабытымі сцягамі былых СССР і БССР.

Такім чынам Каардынацыйны камітэт чатырнаццаці пракамуністычных арганізацый, які стварыўся ў процівагу БНФ, а зараз перайменаваўся ў Народны рух Беларусі (НРБ), спрабаваў пацясніць свайго палітычнага праціўніка на плошчы.

Страсці разгарэліся ўвечары, калі па заклiку лідэраў НРБ на плошчы сабралася ветэранская гвардыя і пачаўся мітынг. Як заўсёды, камуністы традыцыйна смуткавалі па развалены Саюзе і забароне КПСС, аблаялі Ельцына, Шушкевіча, Пазьняка, абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах БНФ, а парламенту рэспублікі загадалі ўвогуле не прымаць новую Канстытуцыю Беларусі. А яшчэ хтосьці з „левых" (так сябе зараз называюць камуністычныя сілы) ледзь не развязаў бойку з заклятымі „бээнэфаўцамі". Апошнія, праўда, паводзілі сябе стрымана, ды і міліцыя знаходзілася побач.

Не менш драматычна, чым на плошчы Незалежнасці, развіваліся падзеі ў першы дзень работы сесіі і ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Марнымі аказаліся спробы апазіцыі БНФ у парламенце паставіць пытанне аб рэферэндуме першым пунктам парадку дня сесіі. Большасць дэпутатаў адхіліла гэту прапанову. Пытанне аб рэферэндуме стаіць ажно на шостым месцы. Калі да яго дойдзе чарга невядома, бо амаль за тыдзень работы парламентары перададолелі толькі адзін з пунктаў парадку дня.

**ЕЎРОПА МОЖА СПАЦЬ СПАКОЙНА**

Беларускі парламент нарэшце ратыфікаваў міжнародны дагавор аб скарачэнні звычайных узбраенняў. Згодна гэтаму дакументу, Беларусі ў бліжэйшы час трэба пазбавіцца ад 2 тысяч бронемашын, 1,5 тысячы танкаў, 130 ваенных самалётаў.

**УЗЯЎСЯ ЗА ГУЖ — НЕ КАЖЫ, ШТО НЕ ДУЖ**

Аказваецца, што вельмі цяжка не толькі стаць народным дэпутатам, але і пазбавіцца гэтага статусу.

Так, вядомыя на Беларусі дэпутаты генералы Уладзімір Кавалёнак і Віктар Дубынін папрасілі сесію зняць з іх паўнамоцтвы народных выбраннікаў. Абодва яны займаюць высокія пасады ў расейскім войску, Віктар Дубынін з'яўляецца начальнікам Генеральнага штаба Расейскага войска, а касманаўт Уладзімір Кавалёнак — начальнік расейскай лётнай вучэльні. Зрэшты, большасць народных дэпутатаў ніколі не смуціў гэты казус, і яны не дазволілі абодвум генералам скласці паўнамоцтвы парламентарыяў.

**ТАЯМНІЦА ГІБЕЛІ „МІГ—25"**

На мінулым тыдні непадалёку ад Шчучына здарылася трагедыя. Пры выкананні вучэбна—трэніровачнага палёту разбіўся самалёт беларускіх ваенна-паветраных сілаў „МІГ—25". Абодва лётчыкі загінулі.

**СЛЕД СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ**

Яшчэ адно злачынства сталіністаў выяўлена на Гомельшчыне мясцовай асацыяцыяй ахвяраў рэпрэсій. Як стала вядома, непадалёку Гомеля, у селішчы Хальч у трыццатыя гады была гулагаўская калонія для жанчын з груднымі дзецьмі і цяжарных. А паколькі ўмовы жыцця ў гэтым канцэнтрацыйным лагеры былі вельмі жорсткія, то і жанчыны, і немаўляты мерлі, як мухі. Іх хавалі на хальчанскіх могілках, але да гэтага часу мясцовыя жыхары баяліся расказваць пра жахлівыя злачынствы сталінізму.

Дарэчы, паслядоўнікі крывавага камуністычнага дыктатара нядаўна правялі чарговую акцыю вандалізму ў Курапатах. Варвары садралі з помніка-крыжа і паламалі абраз Ісуса Хрыста, парвалі ручнікі, спрабавалі пашкодзіць сам крыж. Жудасна.

**МІЛАЯ МОЛАДЗЬ, НЯШЧАСНАЯ МОЛАДЗЬ...**

Бяда адна ніколі не ходзіць. У ліку крызісаў, што звaліліся на Рэспубліку Беларусь апошнім часам, ёсць, аказваецца, і дэмаграфічны. Згодна афіцыйнай статыстыцы на Беларусі моладзь складае толькі 19,8 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва. І яшчэ, ледзь не кожны трэці падлетак зараз сур'ёзна хворы — выяўляюцца вынікі Чарнобыльскай бяды. Беларуская нацыя ў сур'ёзнай небяспецы!

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Палякі ў Літве галасавалі таксама як беларусы ў Польшчы.
- ✓ Паўстае саюз гмінаў Белавежскай пушчы.
- ✓ Рок-гурт „Уліс" у Сопаце.
- ✓ Камп'ютэры паедуць у Гайнаўку — сказаў старшыня ГП БГКТ.

**Dnia 23 października 1992 r. zmarła śmiercią tragiczną**
**Elżbieta Kulig**
**pracownica Biura do Spraw Mniejszości Narodowych w Ministerstwie Kultury i Sztuki w Warszawie.**

**Сям'і і супрацоўнікам Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва глыбокае спачуванне з прычыны трагічнай смерці**
**ЭЛЬЖБЕТЫ КУЛІГ**
**выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы"**

# АТРАСІНЫ '92

**БАС запрашае на АТРАСІНЫ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ, якія адбудуцца ў клубе NOT (вул. М. Складоўскай 2) у Беластоку 13 лістапада 1992 а гадз. 20.00**

# ХМАРЫ НАД СКАНСЭНАМ

☛ *Працяг са стар. 1.*

вай рады Белавежскага нацыянальнага парку, свой погляд на справу пастанавіла выказаць тая ж Рада — зразумела, на сваім пасяджэнні (адбылося яно 21 верасня 1991 г.). У пастанове, падпісанай старшынёй Рады праф. Я. Б. Фалінскім, чытаем: *„Рада (...) выказвае свой пратэст у сувязі з пробамі ліквідацыі скансэна народнай культуры, створанага на грунтах вёскі Застава ў Белавежы. Грамадскімі сіламі ствараецца ў Белавежскай пушчы скансэн з мэтай дакументаваць народную культуру польска-беларускага сумежжа і спрадвечных сувязей чалавека з лесам. Ён — матэрыяльная спадчына гэтага раёна. Рада лічыць, што створаны ў гэтым месцы скансэн з'яўляецца дасканалым дапаўненнем турыстычна-краязнаўчай праграмы і звяртаецца да ўлад з заклікам супрацьдзейнічаць праекту ліквідацыі скансэна або спробам яго перанясення ў іншае месца...”.*

Уладзімір Шахалевіч, жыхар Белавежы, ініцыятар пратэсту застаўлянцаў піша скаргу беластоцкаму ваяводу. Той не прызнае яму рацыі. Пасылае тады сп. Шахалевіч апеляцыю міністру сельскай і харчовай гаспадаркі. Міністр 31 ліпеня г.г. поўнасцю адмяняе гміннае рашэнне і перадае справу на паўторны разгляд беластоцкаму ваяводу. Ваявода рашэння яшчэ не прыняў...

У Белавежы ўлетку збіраліся подпісы пад пратэстам супраць спробаў ліквідацыі скансэна. Распаўсюджваўся таксама зварот такога зместу:

*„СКАНСЭН у даліне Нараўкі, на ўзбярэжжы Белавежы — гэта месца сімвалічнае, ушанаванне, складзенае даўнім жыхарам. Тут настае момант роздуму і ўдзячнасць для тых, якія ўжо адыйшлі, але астаўся іх культурны здабытак.*

*Скольні ж часам спатрэбіцца намаганняў, каб зберагчы ад забыцця і ўсвядоміць сабе і іншым няўхільнасць прамінання і як вельмі важнай з'яўляецца памяць аб продках.*

*Таму дзіўнай і скандальнай кажацца паслядоўная дзейнасць жыхароў вуліцы Застава, якія прабуюць давесці да скасавання натаральнай умовы на зямлю пад скансэн і прызначэння яе на будаўнічыя дзялянкі.*

*У Белавежы хапае зямлі пад будаўніцтва.*

*Чаму акурат прыгажосць задуменнага ў імгле скансэна становіць фон для бяссэнсіцы і ўскіпеласці?*

*Калі хопіць нам добрай волі, каб супрацьставіцца неабгрунтаваным дзеянням, ДАПАМАЖЭМ СКАНСЭНУ!”.*

Як каментарый да гэтай справы няхай будзе выказванне А. Адзіевіча:

— Парадоксам з'яўляецца факт, што ў абарону скансэна беларускага будаўніцтва спантанна выступілі жыхары польскай нацыянальнасці. Пад нашым пратэстам падпісаліся масава замежныя турысты. У той самы час мясцовыя беларусы, зразумела не ўсе, выступаюць супраць ідэі захавання культурнай, спадчыны сваіх продкаў.

Проста гратэск!

**ПЁТР БАЙКО**

## БІЗНЕС НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Ідучы каля невялікага базара ў Супраслі, пачуў я знаёмы голас, які гучэў неяк незвычайна. Затрымаўся я і вочам сваім не веру - пані Тэрэса, мая знаёмая, родам з заблудаўскай зямлі, апранута ў вопратку ўсходняй прадукцыі, з нейкімі шмоткамі ў руках размаўляе з "кліентамі" па-беларуску. Калісьці ў дзяцінстве гаварыла яна выключна на гэтай мове, але ўжо, здаецца, з дваццаць гадоў таму перайшла яна выключна на польскую.

Што сталася! Падыходжу я да Тэрэскі, а яна, сцішыўшы голас, вітаецца са мною па-польску. Тады падыйшоў нехта і запытаў пра цану ручніка, які ляжаў на сумцы маёй знаёмай, а яна голасна адказала - па-беларуску: "Дваццаць тысяч". Што за халера, думаю і пытаю збянтэжаны Тэрэску, чаму яна адказвае па-беларуску, калі кліент пытае па-польску. Тэрэска зноў сцішыла голас і пачала паясняць: "Muszę udawać Ruska!" Polacy nie kupują u Polaków, bo są przeświadczeni, że trzeba im zapłacić drożej za towar, który przywożony jest od Ruskich. Przecież wszyscy wiedzą, że u Ruskich można kupić taniej i każdy, kto u nich kupuje, jest przekonany "że zrobił dobry interes".

Тут падышла нейкая жанчына і стала аглядаць гадзіннік і пытаецца пра цану. А пані Тэрэска: "Бярыце, не таргуйцеся, з 1 лістапада нас ужо не будуць пускаць. Гэта апошняя нагода, каб таннней купіць наш тавар". "А што там у цябе добрага?" - звярнулася да мяне Тэрэса амаль не перарываючы свой маналог.

- Усё добра Тэрэска. Усё добра.

**М.**

## НАШАЕ ЖЫЦЦЁ

Хачу коратка расказаць, як мы жывем у незалежнай Польшчы. Зраблю гэта на прыкладзе сваёй вёскі — Дубічы-Царкоўныя.

Пакуль што, ніхто ў нас жабраваць пад царкву не ходзіць, а кожны старэйшы чалавек мае нейкую невялікую пенсію. Так-сяк пражыць можна.

З другога боку гляджу я на аграмадныя будынкі, што недалёка маёй хаты. Гэта ўласнасць кааператыва „Кулко рольнічэ”, які канчае сваё існаванне. На маю думку гэта скандал. Гэтую сялянска-гаспадарчую арганізацыю стваралі на польскай зямлі яшчэ ў XIX стагоддзі, асабліва ў Велькапольсцы. Дапамагала яна тады палякам перажыць найгоршае, утрымаць зямлю ў сваіх руках, а нават купляць яе ў нямецкіх баўэраў. Перад вайной кожны ўрад стараўся памагаць сялянам арганізаваць такія гурткі. А што цяпер робіцца? Цяжка сабе ўявіць, у якім напрамку ідзе гэтая палітыка.

Не магу таксама ўявіць, як будзе выглядаць нашае жыццё, калі ўжо да канца развaліцца гэтае „кулко”. Там жа на плошчы стаіць бензакалонка і ўсякія іншыя прылады, неабходныя селяніну, каб вясці гаспадарку. Трохі далей знаходзяцца, пабудаваныя яшчэ ў калгасную эпоху, будынкі, у якіх вядзецца скупка сельскай жывёлы. Тут, калі гэтага тавару не мае ахвоты купляць ГС, забіраюць яго прыватныя суполкі.

Побач гэтай базы маем сваю бойню і ветэрынарны пункт, у якім працуе малады і разумны чалавек з суседняй вёскі, Сцяпан Кот.

Цяпер, калі хочаш прадаць карову, свінню ці каня, трэба не раз задумацца, бо на гэты самы тавар ёсць розныя цэны. Напрыклад, прадаў я сваю цялушку для ГСа. Заважыла яна 570 кілаграмаў, заплацілі мне амаль 6 мільёнаў злотых. Многа гэта ці мала — не ведаю. Адны гавораць, што можна было дастаць больш, другія — што і так добра выйшла. Каб купіць каня, трэба цяпер выдаць 12—15 мільёнаў, дык на маю думку лепей ужо збіраць грошы на трактар, якога не трэба ні паіць, ні карміць, а і работа з трактарам куды лягчэйшая.

І яшчэ дна з'ява з нашага штодзённага жыцця. Бушуюць па нашых вёсках зладзеі. Перад Пакровай, ноччу, абакралі ў нас краму з гарэлкай. Пакінулі для жарту толькі адну бутэльку. У тую самую ноч абакралі таксама крамы ў Грабаўцы і Орлі. Відаць — тая самая „шайка”. І трэба прызнаць — спрытныя хлопцы, хаця і жулікі. Абакралі краму і не пабілі нават ліхтароў, якія ярка свецяцца вакол яе! А кругом стаяць хаты, жывуць людзі, і ніхто нікога не бачыў. А можа нехта і бачыў, але маўчыць, бо не хоча быць сведкам у судзе. Хто раз пабачыць адваката перад сабой і паслухае, як сыпле ён фальшывымі фразамі, адхочацца яму ўсялякіх судоў. Ніхто таксама не хоча сцягнуць на сябе помсту зладзеяў. Пасядзяць пару месяцаў, але калі выйдуць з турмы, прыпомняць сабе, каму павінны быць удзячны за прымусовы адпачынак. Таму і людзі маўчаць.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Аднойчы ехаў я аўтобусам з Беластока ў Бандары. Сеў каля мяне чалавек, які жыве сёння ў бандарскіх блёках. Яго высялілі з вёскі, якая знаходзіцца цяпер на дне возера.

Я хваліў, што гэтае мора — добрая справа, бо ёсць дзе купацца, рыбу вудзіць і так далей. А той чалавек глянуў на мяне і кажа: „Добра табе гаварыць, але каб давялося тут жыць, то інакш заспяваў бы. Возьмеш вось рэнту — 800 тысяч. Заплаціш за кватэру 500, за ацяпленне, святло ды тэлевізар — застанецца 100 тысяч на малако і хлеб. Як будзе так далей, дык пойдзем не на возера, а ў возера!”

Я падумаў, што мо і праўду ён кажа. Непраўдлівасцей у нас шмат. Вось бацька перапісаў гаспадарку на сына. Сын працуе ў Беластоку і не мае паняцця, што робіць на гаспадарцы. Бацька трымае 10 кароў, бярэ грошы за малако і адначасова рэнту.

Ці ж можна параўнаць чалавека з Бандароў, у якога застаецца 100 тысяч, каб пражыць, з тым, які бярэ 5 мільёнаў у месяц, а да таго мае свой хлеб, мяса, малако і не плаціць за кватэру 500 тысяч...

Вось як мы жывем. Ці справядліва гэта? Мо хтосьці нам адкажа.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## АНДРЭЙКА

Час ад часу, хаця вельмі рэдка, прыходзіцца мне ехаць на сваёй машыне (так, так, я, былы пастушок, сёння ўласнікам „Вартбурга”) з Беластока ў Гайнаўку. Дарога прабягае побач вёскі Храбустоўка.

Не ведаю, ці жыве ў гэтай вёсцы і ці ўвогуле жыве Андрэй, мой равеснік, якога калісьці лёс закінуў у Грабавец, дзе мы разам пасвілі кароў.

Не ведаю чаму, але часта думаю пра Андрэя, хаця ён, пэўна, мяне ўжо не памятае. Быў гэта вясёлы хлопец, які часта ўсміхаўся і спяваў прыпеўкі на рускай мове: „Уха-хай, у-ха-хай, мать корову продала. У-ха-хай, у-ха-хай, мне на водку не дала”. Хочацца заехаць у Храбустоўку пабачыць Андрэя, пагаварыць пра нашу маладосць і тыя каровы, якія мы супольна пасвілі. Баюся, аднак, што пасля прывітання скажа ён, што ніколі кароў не пасвіў, у Грабаўцы не быў, а перад вайной меў цэлы ўчастак зямлі. Злае мяне за тое, што пастухом яго рабіць хачу і крыкне на канец: „Пайшоў вон з майго панадворка!”

Можа Андрэй так справу не паставіць, але цяпер няма ніводнага чалавека, які казаў бы, што за санацыі быў галодны і вымушаны быў за чужымі каровамі бегаць. Я сам ужо памалу прывыкаю да радаснага вобразу гэтай эпохі, які сёння размалёўваюць газеты, кніжкі, фільмы — да вобразу паўсюднага дабрабыту. А можа тое, што я быў галодны і абарваны, мне толькі снілася? Сам ужо не ведаю.

Стаю ў чарзе ў магазіне „Гортэкс”, каб купіць нейкае піроржнае і чую ад чалавека з тоўстым каркам, які быў перада мною: „Пшэд война мелісьмы в околіцы Гродна 400 гэктарув земі, было вшысткего в бруд, а робoтніцы насі жылі як у Бога за пецэм”. „О, я вем, — даказвае жанчына, што стаяла побач, — мысьмы тэж мелі споро земі і паробкув. Вшысткім добжэ се поводзіло. Втэды то было жыце, а тэраз цо?”

Я не вытрымаў і сказаў: „А я за вашых добрых часув нігды до сыта хлеба не наядлэмсе”. „Бо пан быў смердзонцы лень”, — адказалі мне. Не было пра што і гаварыць, бо яны пэўна і не зразумелі б, што шасцігадовае дзіця не заробіць на той дабрабыт, пра які яны гаварылі.

Пару месяцаў пасля гэтай гутаркі ў „Гартэксе” у БГКТ арганізавалі святкаванні з нагоды „Дня жанчын”. Прыйшоў я туды і не магу вачам сваім паверыць — за сталом сядзіць той жа „памешчык” з „Гартэкса”. Запытаўся я спадарыню Любу Г., ці яна ведае гэтага чалавека. Яна: „А як жа, ён з нашай вёскі. Яго сям'я была найбяднейшай у цэлай ваколіцы. Ён, яго браты і сёстры безупынна бегалі галодныя і чакалі кавалка хлеба ад людзей.”

Вось табе і капіталіст. Наш няшчасны мужык, які робіць з сябе вялікага пана.

І другі прыклад нашай сённяшняй шызафрэніі. Спатыкаю я ў магазіне „Цэнтраль” свайго калегу, капітана міліцыі, вядомага ў гэтым асяроддзі п'яніцу. Лех Валэнса акурат у той час быў выбраны прэзідэнтам. „Пан капітан”, таксама наш нядаўні мужык, голасна звяртаецца да мяне на польскай мове: „Бачыў я цябе ў тэлебачанні, як ты бараніў помнік бандытаў і акупантаў (мова пра помнік удзячнасці, які стаяў у беластоцкім парку). Ты дурню, каго ты бароніш! Каб ты быў разумны, ведаў бы, каму служыць!”. „Генэк, — гавару, — ці мы маем сварыцца за палітыку?” „А цо мам робіць, кеды відзэ такего дурня, цо броні помніка окупантув!?” Адыйшоў я ад яго, бо людзі пачалі звяртаць на нас увагу.

І ўсё ж думаю пра Андрэйку. Ці памятае ён, што калісьці пасвіў кароў? А можа там, дзе ён цяпер жыве, ведаюць яго як чалавека памешчыцкага паходжання, або як таго капітана-Валенрода, які цэлы час будучы нібыта камуністам, змагаўся за свабоду і дэмакратыю? А можа, калі жывеш, Андрэй, і чытаеш „Ніву”, адазвешся і пераканаеш мяне, што Грабавец гэта не сон, а рэчаіснасць?..

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

## ВЫКАРАНІЦЬ СТЭРЭАТЫПЫ

Калі няма свабоднай гістарычнай навукі, месца фактаў займаюць міфы. З цягам часу становяцца яны стэрэатыпамі і паспяхова выцясняюць любыя праявы крытычнага мыслення. Выкараніць стэрэатыпы надзвычай цяжка, тым больш, што сапсаванай гісторыі вучацца няраз цэлыя пакаленні. Амаль мадэльным прыкладам такой сітуацыі можа паслужыць Беларусь, з закрытымі архівамі, з вельмі ж абмежаванай /да нядаўна/ свабодай слова, з поўнасцю скрыўленым вобразам мінулага.

Аднак усяму прыходзіць свой канец. Паяўляюцца, праўда, пакуль зрэдчас, публікацыі гісторыкаў, якія абвяргаюць стэрэатыпы адзін за адным. Да такіх гісторыкаў, несумненна, належыць Юрка Туронак. Ягоная кніжка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" зрабіла на Беларусі фурор, стала сапраўдным бестселерам. Але, хаця друкавалі яе /прынамсці абшырныя фрагменты/ шмат якія газеты і часопісы, дыскусіі над ёю яшчэ не атрымалася. Замнога ў ёй было новага, як на першы раз. Але такая дыскусія мусіць адбыцца, як зрэшты і пра II сусветную вайну на Беларусі.

Юрка Туронак сказаў быў мне неяк, што любіць дзве рэчы: статыстыку і армію. Адным словам - парадак. І гэта адчуваецца ў яго публікацыях. "Беларусі пад нямецкай акупацыяй" не сапсавала нават выдавецтва, хаця намагалася гэта зрабіць усімі сіламі /не хапіла месца для асабовага індэкса, здараліся - часамі даволі дзіўныя - памылкі/.

Другая кніжка Ю. Туронка* не мае ўжо такіх хібаў, бо з'явілася ў сур'ёзнай фірме - у Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук. Надрукавала яе Варшаўская выдавецкая суполка "Грыф". "Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі" гэта праца, якая абвяргае стэрэатыпы не ў меншай ступені, чымсьці тая пра нямецкую акупацыю.

Па-першае: абвяргае стэрэатыпны вобраз нацыянальнага адраджэння пачатку нашага стагоддзя. Ю. Туронак адкідае ананімнасць тае пары, называе дзеячаў і вызначае ўласцівыя ім месцы.

Па-другое: разглядае справу незалежнасці Беларусі. Адарвацца ад Расеі хацелі не толькі ўсялякай масці авантурысты і здраднікі, як гэта даказвалі савецкія гісторыкі. Але і не ўсё праходзіла так гладка, як хацелася б эміграцыйным даследчыкам і публіцыстам - не адразу выспела ідэя незалежнасці і не ўсе нацыянальныя дзеячы аднолькава яе бачылі.

У міжваенны перыяд лідэры беларускага руху рабілі розны выбар, таксама было і падчас II сусветнай вайны. Гэта ўсё выступае ў кніжцы Ю. Туронка, зразумела, як фон, на якім паказаны галоўны герой. Чытач атрымлівае




не толькі сухія факты з жыцця Вацлава Іваноўскага /нарадзіўся тады і тады, зрабіў тое і тое, памёр тады і тады/, але і вобраз надзвычай багатай падзеямі эпохі, у якой давялося яму жыць, дзейнічаць і сыграць ролю далёка значнейшую за эпізадычную.

Гэтая кніжка - плён амаль што 15-гадовай даследчыцкай працы. Багаты ён перш за ўсё фактамі, спеласцю канцэпцый, абгрунтаванасцю доказаў, выкарыстаннем і аналізам разнастайнага матэрыялу ўрэшце.

Пры тым усім, кніжка чытаецца як дэтэктыў! Што таксама, думаю, не без значэння.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

---

* *Jerzy Turonek, Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa 1992.*

## РАДЫЁ "СВАБОДА"

*Назіранні над праграмай беларускай радыёстанцыі "Свабода".*

Вось ужо колькі год запар, стала, з таго часу, як перасталі яе глушыць /не прапусціў ніводнай перадачы/, слухаю беларускую радыёстанцыю "Свабода". Дзякуй Богу, амерыканскаму Кангрэсу і ўсяму добраму, працавітаму і спагадліваму люду за тое, што яна існуе. За гэтыя гады "Свабода" шмат паведаміла аб Беларусі і беларушчыне, узмацніла да іх мае добрыя пачуцці і думкі. Працягваючы слова ўдзячнасці, асабліва хачу яго скіраваць у адрас старэйшага супрацоўніка радыёстанцыі - энцыклапедыста, доктара гістарычных навук - Язэпа Барэйкі /ён жа, здаецца, Сільніцкі/. Вельмі шкада, што апошнім часам ужо немагчыма чуць яго своеасаблівы голас і тую музычную прэамбулу, што прадсуправаджала толькі яго, высокай якасці, матэрыялы.

Уважліва слухаю рэлігійныя гутаркі Канстанціна Бандарука. Што казаць! Гэта неабходная справа, хоць, праўда, не так хутка адчуваецца ад яе плён. Я, як максіміліст і ў пэўнай ступені экстрэміст і тут хачу, як бы гэта далікатней выказацца, даць параду. Зноў жа мае погляды і падыходы - вельмі індывідуальныя. Рэлігійнай перадачы на сённяшні дзень неабходна памяняць сваю танальнасць. Яна не павінна быць увесь час памяркоўнай, супакойнай; наадварот, яна павінна праходзіць у інтанацыях кніг прарокаў, г.зн. пад пасвіст духоўнага бізуна. Цяпер такі час, такія ў людзей сэрцы, што, як пісаў Багдановіч, у іх трэба біць і біць мячамі, каб абудзіць любоў да зямной Радзімы. А каб узварушыць пачуцці да Радзімы нябеснай, трэба на ўвесь свет біць у набат. Хай чалавек за ўсё адчувае сваю адказнасць перад Богам, хай зразумее, што сённяшняе яго жыццё, як яно ёсць, - бесперспектыўнае. Перспектыва ж адкрываецца толькі праз набыццё рэлігійнай свядомасці. А ўвогуле голас айца Канстанціна і ў іншых перадачах мне заўсёды прыемна чуць.

Калі ўжо пра голас, то не магу не выказаць маё захапленне голасам Васіля Крупскага. І вось гэты голас павінен быць больш мабільным у барацьбе з ворагамі дэмакратыі і беларушчыны.

Хочацца адзначыць матэрыялы Алены Тарасэвіч і Алены Радкевіч /абедзве, здаецца, з Менска/, Міколы Іванова з Вроцлава, якія вылучаюцца самастойнасцю, першаснасцю. Падабаюцца /праўда, не ўсе/ эмацыянальна-аналітычныя карэспандэнцыі Галіны Айзенштат.

Безумоўна, не толькі гэтымі імёнамі і працай іх носьбітаў вымяраецца работа радыёстанцыі. Ёсць і іншыя людзі /Ася Ігнацёнак, Вячаслаў Ластовіч/, як, вядома, і іншыя тэмы. І ім дзякуй.

Трэба памятаць, што беларуская "Свабода" пераважна для Беларусі і пра Беларусь. Безумоўна, гэта не адмаўляе тэзісу, што краіна наша павінна кантэкстуальна прысутнічаць у калізіях усяго свету. Добра, што апошнім часам пайшоў матэрыял з Беласточчыны. Дарэчы, паведамленні адтуль заўсёды цікавыя. Чакаем іх і такіх з Аўстраліі, Паўднёвай Амерыкі, з Сібіры, Далёкага Усходу і іншых краін.

**ЯЎГЕН ГУЧОК,**
**Менск**

## „НІВА" – НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНАЯ ЦІ КАМУНІСТЫЧНАЯ?"

Вакол нашага тыднёвіка паўстала апошнім часам вельмі цікавая міфалогія. Яна настолькі парадаксальная, што не раз ужо развесяліла рэдакцыйны калектыў. Парадокс заключаецца ў тым, што ў асяроддзях, дзе „Ніву" не чытаюць, ацэньваюць яе змест. Ацэнкі гэтыя найчасцей адносяцца не да таго, што друкуецца ў „Ніве", а паказваюць толькі на палітычныя, ідэалагічныя, рэлігійныя, нацыянальныя сімпатыі або антыпатыі аўтараў выказванняў.

З лістоў, якія прыйшлі ў рэдакцыю і з прыватных размоў, якія вяліся з удзелам журналістаў, прывядзем толькі найбольш радыкальныя выказванні, якія, аднак, не з'яўляюцца адасобленымі:

**„Jak długo będziecie kontynuować komunistyczną propagandę?"** (ліст з Беластока), **„Ваш антыкамунізм ёсць так агідны, што не хочацца браць газету ў рукі"**, **„Я слышал, что „Ніва" это унитская газета, редакторами там ватиканския агенты"**, **„Перастаньце пісаць пра гэтых папоў і цэрквы, хопіць гэтага клерыкалізму"**, **„Ксяндзоўскія пахолкі, антырасейскія прыдуркі, за вамі стаіць польская палітыка"**. Польскі журналіст (п'янаваты): **„Хаця я не чытаў „Нівы", але яна мне здаецца антыпольскай"**. „Заслужаны" беларускі дзеяч: **„Ніва" цяпер стала прапагатарам бандытызму і шавінізму, не бяру яе ў рукі"**. „Заслужаны" асветны дзеяч: **„Ніва" прычынілася да ўпадку беларускага школьніцтва"**.

Ад сябе можам яшчэ дадаць, што вінаватая яна і ў летняй засусе, а магчыма і ў халоднай восені.

**РЭД**

## КАЛІ АПЛАЦІЦЦА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ?

Я яшчэ не чуў, каб маладыя, народжаныя і выхаваныя ў Беластоку, спантанна ды непрымушона гаварылі па-беларуску /акрамя аднаго-двух/. Практычна няма такіх і ў Бельску з Гайнаўкай, і нават у зацюканай Орлі, мястэчку блізу стопрацэнтна праваслаўніцкім. Знойдуцца, праўда, адступленні ад правіла, наконт якіх здаўна вядома, што яны пацвярджаюць правіла; інцыдэнтальныя лічбы асобаў.

Хтосьці скажа: у самой жа Рэспубліцы Беларусь ідэнтычная сітуацыя ў гарадах, але роднамоўе там, усё ж, памалу чуць-чуваць на тратуарах... Да гэтага я дадам наступнае: дастаткова дваццаці гадоў нацыянальнай дзяржаўнасці, каб нацыянальная мова задамінавала літаральна ўсюды. Ад моманту фармавання Беларускай Дзяржавы беларускае слова ў Менску і на правінцыі набывае **вартасцяў хлеба**. А ў нас, у Беластоцкім краі, без яго можна жыць, нярэдка і лепей. Дыктат Польскай Дзяржавы заўсёды будзе польскамоўным, натуральна.

Хочам мы заставацца тут беларусамі, ці не? - вось пытанне. Яно стратэгічна важнае, бо: разам са знікненнем роднага слова пачынаецца працэс рэдукцыі да нуля перспектыў на будаўніцтва нацыянальнай свядомасці. Ці магчыма быць беларусам, не ўмеючы па-беларуску? Адказваю: немагчыма. Нацыя, пазбаўленая нацыянальнага, памірае!

Не бракуе хатніх разумнікаў, якія цвердзяць, што досыць трымацца царквы, каб выратаваць сваю тоеснасць. Аказваецца, цяпер няпраўда! У Беластоку, дзе пражывае прыблізна кожны трэці беларусападобенец, растуць у парафіях дамаганні, вось-цода, пераводу багаслужбаў на - усім зразумелую, **асабліва дзецям**, - польскую мову. Я не сумняваюся ў тым, што так яно пераважна і збудзецца, тым болей, што гэтыя тэндэнцыі актыўна падтрымліваюць святары, сярод якіх мінімальны працэнт дэкларуе беларускасць або, т. зван. русінства, а што зусім не значыць, каб хаця ў іхных сем'ях неадлучна запанаваў патрыятызм. У сэнсе прыватнай мовы, не публічнай, абсалютна ўсе яны ўжо палякі.

Гэтая з'ява паступова ахоплівае і правінцыю. Завяршыцца яна не пазней як на працягу аднаго пакалення, калі канчаткова вымра вёска, дагэтуль адзіны этнічна аднародны арэал. У наступіўшай сельскай пустыні з фермерскімі пунктамі і архіпелагам мястэчак беларушчына апыніцца ў сітуацыі нейкай цывільнай секты ў стыхіі польскамоўя... Схіляе да такой думкі статыстыка. Сярэдняя велічыня гміны ў Польшчы - гэта тысяча дзвесце гаспадароў, калі, тым часам, у маіх жа гмінных Крынках войт з натугаю далічыўся мала больш за сорак усяго! Не думаю, каб вельмі радасней меліся справы і ў самай заможнай па нашых мерках, у Чыжоўскай.

Без помачы Беларусі анідзе не ўтрываюць беларусы. Наш шанц у тым, што ізалюе нас ад яе не прастора, а штучна-палітычная мяжа. Даволі, каб Польшча з Беларуссю рэалізавалі нядаўна падпісаны міждзяржаўны трактат /м.ін. канцэпцыю празрыстасці таго ж кардону/, а нашы гаспадарчыя ды следам за імі і культурныя кантакты зробяцца нечым штодзённым. Беластоцкі край, такім чынам, пачне з часам вылазіць са сваёй глыбока-правінцыйнай глушы, з безнадзейнага існавання. Пераўтворыцца ў паласу прымежнага эканамічнага - не блытаць са спекулянцкім - абмену, усюды ў Еўропе надта ж даходнага /вядома, не адразу, пакуль у Менску не аціхне балаган станаўлення Незалежнасці/.

І станемся тады несмяротнай нацыянальнай меншасцю, але не раней ад тае гістарычнае хвілі, калі - паўтараючы за нашымі прасталюдзінамі - менавіта аплаціцца быць беларусам. Актуальна, як відаць, дык адны страты ад гэтага...

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ПЁТРА КАЖУРА



25 жніўня 1992 г. памёр у Гайлянд Парку, што ў штаце Нью-Джэрзы Пётра Кажура - актыўны дзеяч беларускай эміграцыі ў Паўночнай Амэрыцы - чалавек вельмі заслужаны таксама для Беластоцкай зямлі, хаця сам ніколі ў нас не быў.

Нарадзіўся Пётра Кажура у 1923 годзе ў Карпавічах. У час другой сусьветнай вайны служыў у Польскай арміі. Трапіў у нямецкі палон. У Амэрыку прыехаў у 1949 г. і пасяліўся ў штаце Нью-Джэрзы. Працаваў рабочым ў фірме Траянгле Кэйбле, а з 1966 быў пенсіянерам.

Пётра Кажура быў адным з самых актыўных вернікаў беларускай парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайлянд Парку. Дзякуючы ягонай настойлівасьці і энергіі беларуская грамада змагла змабілізавацца і набыць будынак царквы, які раней прыналежаў грэкам. Пётра Кажура быў аптымістам і чалавекам дзеяньня. Умеў пераканаць і заахвоціць да працы іншых. Быў таксама прыкладам ахвярнасьці і адданасьці беларускай справе.

Хаця сам спадар Кажура не меў вялікай фармальнай адукацыі, але дасканала разумеў патрэбу развіцьця беларускага выдавецкага руху на чужыне. Сам, пакуль дазваляла яму здароўе, многа чытаў і здабыў шырокія веды пра гісторыю Беларусі. Быў заўзятым чытачом беластоцкай "Нівы" і ведаў многа дэталяў з нашага тут жыцьця. Быў ініцыятарам і настойлівым выканаўцаю ўсіх зборак грошай на дапамогу Беласточчыне. Галоўным чынам была гэта дапамога да нацыянальнай палітыкі царквы, разумеў яе значэньне для беларусаў, як апоры традыцыі. Дапамагаў Беларускаму Музею ў Гайнаўцы, бо ведаў, якое значэньне маюць такія афіцыйныя ўстановы, апрача таго дапамагаў яшчэ многім людзям, пра што ведаюць толькі яны самыя, бо спадар Кажура быў таксама вельмі сьціплым чалавекам. Тое што рабіў не выкарыстоўваў ніколі для рэкламы сваёй асобы.

Такіх людзей не так ужо і многа.

Czasopis

### У ЛІСТАПАДЗЕ

Рэдакцыя большасць месца адводзіць рэлігійным пытанням (знак часу?). Галоўныя з іх — Беларусь, тысяча гадоў хрысціянства, ды ахова помнікаў царкоўнай матэрыяльнай культуры. Даецца таксама адказ на пытанне (адзін з магчымых ды салідна „прылізаны”) — чаму не адбыўся, рыхтаваны на 18—23 кастрычніка г.г. Памесны сабор Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы!

Змяшчаецца пераклад знакамітага тэксту з „Нівы”, „Трава забыцця” Яна Максімюка, пра трагічнае мінулае жыхароў беларускай вёскі Залешаны, спаленай „польскім узброеным падполлем” у 1946 г.

Алег Латышонак дае каментарый да сённяшняй палітычнай сітуацыі Беларусі як заходняй часткі расейскай імперыі.

Маюць свой працяг справа беларускага скансэна ў Белавежы ды гісторыя беларускай падпольшчыны ў дваццатыя гады міжваеннай Польшчы. Друкуецца таксама пятая частка кніжкі Сакрата Яновіча "Dolina pełna losu".

У новым нумары сустрэнем яшчэ настальгічны тэкст Дароты Кузьміч пра сённяшнія Мастаўляны вялікага Каліноўскага, якога, дарэчы, героем зусім там не лічаць.

Як заўсёды — пастанныя рубрыкі, крыжаванка.

(К)

## МАНАГРАФІЯ ПА ГІСТОРЫІ ПАДЛЯШША

У нашыя дні прыкметна ўзрасло зацікаўленне да гісторыі беларускіх этнічных зямель, што знаходзяцца ў складзе Польшчы. У апошнія гады паявіліся розныя артыкулы і кнігі публіцыстычнага плана, прысвечаныя гэтым пытанням. Выдаецца спецыяльная бібліяграфія па гісторыі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне, якую склаў свяшчэннік Рыгор Сасна.

Пачынаюць выходзіць і першыя навуковыя публікацыі абагульняючага характару.

Манаграфія */ маладога беларускага гісторыка, д-ра А. Міpaновіча, выдадзеная пад грыфам Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай епархіі і Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, дзе працуе аўтар, з'яўляецца першай — інтэгральнай працай па гісторыі праваслаўя на Падляшшы, перш за ўсё ў другой палове XVI і XVII стагоддзяў.

Цяжка пераацаніць тое значэнне, якое мае гэта кніга, названая „Падляшскія праваслаўныя цэнтры і арганізацыі ў XVI і XVII стагоддзях” (Беласток, 1991), для гісторыка славянскіх культур і ўсіх, хто цікавіцца гістарычнымі лёсамі беларускага і ўкраінскага народаў.

Аўтарам сабраны і прааналізаваны абшырны матэрыял, які дазволіў яму зрабіць шэраг важных вывадаў, што датычацца складанага і супярэчлівага працэсу паступовай паланізацыі гэтых зямель, адным са сродкаў якой была прынятая на царкоўным саборы 1569 г. Брэсцкая царкоўная унія.

На прыкладзе Падляшша ў XVI—XVII стагоддзях А. Міpaновічу ўдалося прасачыць, як адбываліся змены ва ўнутраным і знешнім жыцці Праваслаўнай царквы яе форм і характару аж да таго моманту, калі тут засталося ўсяго некалькі праваслаўных „манастырскіх і свецкіх ачагоў” ад цалкам значнага іх ліку ў XVI стагоддзі.

Прадстаўляецца адзіна правільным і надта важным для далейшых даследаванняў падыход аўтара да разгледжання Падляшша ў зменных гістарычных граніцах.

Падляшша — гэта перш за ўсё гісторыка-культурны абшар, граніцы якога de facto ніколі не супадалі з адміністрацыйнымі граніцамі. Апошнія ж, дарэчы, амаль немагчыма дакладна вызначыць нават у адносна кароткай гістарычнай перспектыве. І раней, і цяпер Падляшша ўспрымаецца менавіта як нейкі геаграфічны, а не адміністрацыйны абшар, заключаны ў невыразна фіксаваных межах, „вызначаных” цэлым комплексам чыннікаў: гісторыка-культурнай сітуацыяй, канфесіянальнымі працэсамі, этнакультурнымі лёсамі гэтага краю, што ў выніку і замацавалася ў народнай свядомасці ў выглядзе асобнай гісторыка-культурнай прасторы, якую называюць Падляшшам.

Высока ацэньваючы манаграфію А. Міpaновіча ў цэлым, нельга згадзіцца з некаторымі выказанымі ў ёй палажэннямі. Напрыклад, аб тым, што пераход Супрасльскага манастыра ва унію даволі хутка „змяніў яго характар” (с. 128—129). У сапраўднасці, манастыр яшчэ доўгі час працягваў захоўваць праваслаўныя рысы. Асабліва гэта датычылася літургічнай практыкі: кніжнасць, спевы, іконы і г.д.

Побач з карэктарскімі памылкамі, у кнізе ёсць і прыкрыя фактычныя памылкі. Для прыкладу, вядомы гісторык літаратуры, прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі Мікалай Іванавіч Пятроў усюды ўпамянуты як асоба жаночага полу (с. 119, 120, 295 і інш.), а не менш вядомы беларускі даследчык, свяшчэннік Фёдар Андрэевіч Жудро паслядоўна называецца Жубро (с. 59, 61, 300 і інш.).

Неабходна адзначыць і адсутнасць верыфікацыі шэрагу фактаў, прыведзеных у розных дакументах.

Зрэшты, усё гэта не можа паўплываць на агульную, безумоўна станоўчую, ацэнку манаграфіі А. Міpaновіча. Аналітычная праца вучонага вымагае працягу і хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе мы будзем знаёміцца з новымі яго кнігамі.

**Ю. ЛАБЫНЦАЎ,**
доктар філалагічных навук

---

*/ *Antoni Mironowicz, Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVIII wieku. Białystok 1991*

## НАШЫ КАРАНІ

### XLV. ВЯРТАННЕ

Спакойнае, стваральнае жыццё праваслаўнага насельніцтва ў Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/ і Каралеўстве Польскім у першыя два дзесяцігоддзі панавання Казіміра Ягелончыка было раптоўна парушана. Па ініцыятыве збеглага з Масквы ў Рым уніяцкага кардынала Ісідара уніяцкі патрыярх Рыгор Мамас, што ўцёк з Канстанцінопаля таксама ў Рым, паставіў у 1458 г. у мітрапаліта Кіеўскага, Літоўскага і ўсяе Русі ігумена Рыгора. Ён, па паходжанню балгарын, належаў да самых блізкіх людзей кардынала Ісідара, разам з ім з'явіўся ў Беларусь і Масковію, а потым разам яны адтуль уцяклі. У Вільню мітрапаліт прыбыў з рэкамендацыйнымі лістамі ад папы рымскага і уніяцкага патрыярха да караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра. Святы Айцец паведамляў, што ўсё праваслаўнае насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага адымаецца ад мітрапаліта Іоны /маскоўскага/ і перадаецца ў духовае пастырства мітрапаліту Рыгору. Адначасна папа наказаў Казіміру, каб ён усёй моцай падпарадкаваў праваслаўнае духавенства і народ уладзе Рыгора, "а хто будзе супраціўляцца, - пісаў ён, - таго аддаць на цяжкія катаванні". Казімір Ягелончык як каталіцкі манарх поўнасцю падпарадкаваўся патрабаванням папы. Настаў час цяжкіх выпрабаванняў для праваслаўных.

Каралеўскія чыноўнікі ўсімі сіламі прымушалі праваслаўных епіскапаў, святароў, манахаў і просты люд пераходзіць ва унію і падпарадкавацца уніяцкаму мітрапаліту Рыгору. Аднак справа не належала да лёгкіх. Яшчэ некалькі гадоў перад тым епіскап уладзімірскі і берасцейскі Даніла /яго духоўнай уладзе падлягала амаль усё Падляшша - на поўначы па раку Нарву/ 28 кастрычніка 1452 г. пісаў пра сваю непахіснасць у праваслаўнай веры і падуладнасці мітрапаліту Іону: "имя папино и Исидорово, и того их осмого собора собрание /Ферара-Фларэнцкага сабора - МГ/... отлагаю и проклинаю... и повинуюся во всем господину, преосвященному митрополиту Іоне". На вестку пра новы наступ уніі ў абарону Праваслаўя выступілі мітрапаліт Іона і вялікі князь маскоўскі Васіль. Мітрапаліт Іона звярнуўся з пасланнем да епіскапаў Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага з заклікам, каб яны ніякім чынам не спакусіліся на пераход ва унію і не прызнавалі мітрапаліта-уніята Рыгора, а князь Васіль накіраваў Казіміру ліст з просьбай не праследаваць праваслаўных, не прымушаць іх падпарадкоўвацца мітрапаліту Рыгору і наогул: "Григория от Рима не принимай к себе на место общаго нашего отца, мітрополита Іоны, новизны не делай, старины нашей не нарушай", - пісаў маскоўскі князь. Гэта ў нейкай меры падтрымала на духу і праваслаўнае духавенства і свецкае "людства". Князі кіеўскія Сямён і Міхал Аляксандравічы і гальшанскі Юры Сямёнавіч прыслалі ў Маскву граматы, называючы князя Васіля "своим господином", а мітрапаліта Іону "отцом своим и учителем". Аднак гэта былі выключэнні, бо кароль Казімір гэтак захапіўся насаджэннем уніі, што напісаў князю Васілю, каб той таксама прыняў мітрапаліта-уніята Рыгора.

"Дзесяць гадоў лютавала уніяцкая бура ў Беларусі, - піша архіепіскап Афанасій у сваёй кнізе "Беларусь у гістарычным, дзяржаўным і царкоўным жыцці". - Але народ цвёрда стаяў у праваслаўнай веры і ва унію не пайшоў... Кароль наракаў на тое, што "унія не прынялася сярод праваслаўных". Замест пераходзіць ва унію, праваслаўныя пачалі пераўтвараць рамесніцкія брацтвы ў згуртаванні дзеля абароны Праваслаўя ад наступу уніі. Пасля дзесяцігадовага насаджэння уніі кароль Казімір і мітрапаліт Рыгор урэшце ўсвядомілі сабе, што іхнія намаганні пайшлі намарна. У 1468 г. кароль у лісце з сумам паведамляў папу, што ў ягонай дзяржаве "жыве вялікае мноства ерэтыкоў і схізматыкаў" і з кожным днём іх прыбывае. Ніякаю сілаю немагчыма іх навярнуць на унію, і таму ён просіць папу прысладь манахаў, каб яны ўгаворамі схілялі беларусаў і русінаў /гэта значыць - украінцаў/ пераходзіць ва унію. У адказ папа прыслаў ордэн бернардзінцаў, якія ў 1469 г. пасяліліся ў Вільні і разгарнулі свой місійны наступ на Праваслаўе ў Беларусі.

Мітрапаліт Рыгор урэшце пераканаўся, што насаджэнне уніі - гэта безнадзейная справа: праваслаўныя арганічна ненавідзяць унію і уніятаў. Ён добра бачыў, што фактычна стаў пастырам без паствы і што акружае яго адчужанасць і непрыхільнасць: іерархі падпарадкоўваліся яго ўладзе толькі фармальна, а на самай справе заставаліся вернымі Праваслаўю. Глыбока разважыўшы поўнае паражэнне уніі, пад уздзеяннем епіскапаў і акружэння мітрапаліт Рыгор рашыў адмовіцца ад уніі і вярнуцца на ўзлонне Праваслаўя. Ён звярнуўся да праваслаўнага патрыярха канстанцінопальскага Дзіянісія і патрыярх разграшыў яго, блаславіў і з радасцю зацвердзіў у праваслаўнага мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Гэта была вялікая перамога Праваслаўя.

Памёр мітрапаліт Рыгор Балгарын у 1473 г. Праваслаўная Царква кананізавала яго.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## У ГРОДНЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

29 верасня г.г. у Гродне адбылася канферэнцыя матэматыкаў. З удзельнікам гэтай канферэнцыі, доктарам **Міхасём Германюком** з ольштынскай Сельскагаспадарча-тэхнічнай акадэміі размаўляў Андрэй Гаўрылюк.

*— Скажыце, як арганізавалася гэта канферэнцыя?*

— У Ольштыне былі навукоўцы з Беларусі і запрапанавалі нам удзел у сустрэчы, якую яны арганізавалі ў Гродне. Вядома, што ўзровень матэматычных навук там даволі высокі і варта было туды паехаць. Афіцыйным арганізатарам гэтай міжнароднай канферэнцыі быў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. Запрошаных было каля 600 матэматыкаў з СНД і іншых краін, а прыехала звыш 300 навукоўцаў.

*— Якое ваша ўражанне ад пабыўкі ў Гродне?*

— У горадзе з выгляду нічога не змянілася. Ленін стаіць там, дзе і стаяў. Людзі гавораць на рускай мове, Сярод удзельнікаў канферэнцыі было шмат выдатных матэматыкаў, беларусаў па паходжанню, якіх аднак ведаюць у свеце як вучоных рускіх. Яны, зрэшты, і пагаджаюцца з такім назваеннем іх пазіцыі. Сумна робіцца, калі рэктар Казанскага універсітэта ці маскоўскі прафесар, родам з Беларусі, выступаюць як расейскія вучоныя. Але цяпер ёсць шанц, што нешта будзе мяняцца і беларуская эліта захавае вернасць сваёй Бацькаўшчыне.

*— Дзякую за размову*

Гутарыў:

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## У ГАЙНАЎСКАЙ ГМІНЕ ЗРАБІЛІ МНОГА

Сёлета ў Гайнаўскай гміне адрамантавалі шматлікія адрэзкі выбоістых дарог. Асфальт паклалі на звыш кіламетравым адрэзку вуліцы ў Дубічах-Асочных. У наступным годзе — так плануюць — асфальтаванае палатно паложаць на старым бруку ў Чыжыках.

—Многа папрацавалі мы пры рамонце гравейкі ад шашы з Гайнаўкі ў Бельск у вёску Выгода, — паінфармавала нас войт Вольга Рыгаровіч. — Дачакаліся рамонту паўтаракіламетровыя адрэзкі мясцовых дарог з Арэшкава ў напрамку Сасноўкі ды з Арэшкава ў Выган.

Яшчэ ў вясеннюю пару здалі ў карыстанне вясковы дом культуры ў Пасечніках-Вялікіх. Да таго пры ім пасадзілі дэкаратыўныя дрэўцы. Падобны культурны аб'ект нядаўна адкрылі ў Махнатым.

Перад новым культурна-асветным сезонам 1992/93 былі праведзены капітальныя рамонты ў Гмінным асяродку культуры ў Дубічах і ў святліцы ў Старым Беразове.

Зараз ідзе пабудова водаправодаў і падключэнне вады ў хаты ў Новым Беразове, Чыжыках, Новым Корніне і Трывежы. У наступным годзе ваду з крана будуць піць жыхары Дубічаў-Асочных, Пуціскаў, Хітрай, Барка і Катоўкі. Яшчэ на год пазней дачакаюцца гэтай выгады сяляне з Дубін, Ліпін і Навасадаў.

Ва ўсёй гміне адрамантавалі пашкоджаныя сцены пачакальняў на аўтобусных прыпынках ПКС, якія былі пабудаваны з так званых „люксфераў". Невядома чаму якраз лёгкія сцены з тоўстага шкла не ўсім да спадобы. А можа іменна таму, што яны далікатныя і прыгожыя? Відаць, дрэнна выхаваным маладым юнакам давай бункры — з бетону і жалеза. А эстэтыка якая — усе бачым.

ЯСЕНЬ

## ЦУДАДЗЕЙНАЕ ЛЯКАРСТВА — „НАРКАДЗЕЛ"

Як і наколькі рэальна можна дапамагчы чалавеку, пакутуючаму п'янствам?

Амаль сто гадоў таму прафесар Н. Рогаў у Пецярбурзе знайшоў такі сродак. Але толькі сучаснікі адкрылі яго цудадзейную таямніцу метаду вызвалення ад гэтай страшнай хваробы і іншых захворванняў, выкліканых наркотыкамі.

Прафесар Рогаў распрацаваў метад вылечвання п'янства пры дапамозе траваў. На іх падставе падрыхтаваў прэпарат, які назваў „НАРКОДЕЛ". Дзевяноста з 400 пацыентаў, якіх лячыў, поўнасцю кінулі піць. У гады рэвалюцыі Рогаў эміграваў у ЗША. Там не меў матэрыяльных магчымасцяў прадаўжаць свае доследы, не меў таксама адпаведнай сыравіны; памёр у 1983 годзе. Інфармацыі аб „Наркадзеле" былі знойдзены ў сямейным архіве Рогава і апублікаваны ў ЗША.

У выніку доследаў, праведзеных у медычных навуковых лабараторыях у ЗША, Галандыі і іншых краінах, пацвердзілася прысутнасць у „Наркадзеле" біялагічна актыўных рэчываў, якія Рогаў назваў „наркаідамі", па сваёй структуры і фармакалагічнаму ўздзеянню блізкіх эндагенным, але не выкліkаючых залежнасці і блакіруючых гамма-рэцэптары ў мозгу.

Метад Рогава адрадзіў А. Болдыраў, кіраўнік наркалагічнага аддзела псіхіятрычнай лячэбніцы ў Маскве. Ён знайшоў у архівах дысертацыю Н. Рогава і выкарыстаў яго вынікі ў лячэнні хворых алкагалізмам. У 100 выпадках на 100 заўважаецца спыненне запояў.

„Наркадзел" выпрацоўваецца ў Маскве з лячэбных раслін, растучых дзіка ў экалагічна чыстых рэгіёнах; усе гэтыя расліны ўпісаны ў X Фармакапею. З выгляду гэта лякарства — карычнявата-зялёны парашок без запаху, лёгка гаркаваты. Разавая доза — 0,2 грама, ва ўпакоўцы — 18 разавых доз. Адна ўпакоўка хапае для правядзення курса лячэння на працягу 6—12 месяцаў (сродак прымаецца раз у дзень). „Наркадзел" прымаецца ўнутрана 30—40 хвілін пасля яды адзін раз у 7, 10, 15 альбо 21 дзень. Нельга падчас лячэння прымаць алкаголь і іншыя адурманьваючыя сродкі. У залежнасці ад стадыі хваробы, на працягу ад 6 да 12 месяцаў наступае поўнае аздараўленне.

Прэпарат няшкодны для хворых з высокім артэрыяльным ціскам (нават яго нармалізуе). Пасля курса лячэння (год) чалавек практычна назаўсёды адказваецца ад кілішка, нікаціну ці наркотыкаў. Група спецыялістаў Болдырава лячыла больш 150 тысяч хворых алкагалізмам, наркаманаў, людзей залежных ад нікаціну, злоўжываючых алкаголем, эпізадычна прымаючых наркатычныя сродкі (гашыш, опіум). Атрымаліся вынікі, блізкія вынікам прафесара Рогава: ужо пасля аднакратнага прыняцця парашка прападала на 2—3 тыдні цяга да сродка, ад якога была залежнасць. Пры рэгулярным прымяненні лякарства на працягу 12 месяцаў рэмісія складала больш 73 працэнты. На эфектыўнасць уплывала папярэдняя групавая і індывідуальная псіхалагічная падрыхтоўка, устрыманне на працягу не менш чым 7 дзён ад прыняцця наркатычных сродкаў, нагляд лекара.

Процілаказанні: арганічныя змены ў мозгу, у тым ліку псіхічныя захворванні псіхатычнага і непсіхатычнага характару, вынік цяжкіх чэрапна-мозгавых траўм, таксічныя паражэнні, алкагалізм 3 стадыі, наркаманіі высокіх стадый, таксікаманіі.

Лісты ў справе „Наркадзелу" можна адпраўляць на адрас: Россия, Краснодарский край, г. АРМАВИР, ул. Урицкого, 82 „А", ком. 70, центр „Эхо".

МІРА ЛУКША

## „ПАМОСТ" У ОЛЬШТЫНЕ

У „Ніве" ад 30 жніўня г.г. мы чыталі інтэрв'ю Ярaслава Іванюка са старшынёй таварыства „Памост" Томашам Шчапанскім. Я хачу сёння вам прадставіць ольштынскі аддзел „Памоста". Мне ўдалося размаўляць з доктарам Анджэем Баркоўскім, гісторыкам, які паінфармаваў мне аб дзейнасці таварыства.

Таварыства „Памост" існуе ад 20 снежня 1988 года, і ёсць працягам нефармальнага дыскусійнага клуба з гэтай назвай, які дзейнічаў у Варшаве. У „Памосце" сустракаюцца людзі, якіх цікавяць адносіны паміж народамі цэнтральнай і ўсходняй Еўропы. Дагэтуль найбольш сяброў і сімпатыкаў таварыства выводзіцца са студэнцкага і навуковага асяроддзя.

„Памост" супрацоўнічае з многімі ўстановамі і арганізацыямі. Сярод заснавальнікаў „Памоста" былі, між іншымі, нашы беларусы з БАСу. Цяпер існуюць аддзелы „Памоста" ў Варшаве, Лодзі, Ольштыне; ёсць сімпатыкі ў іншых гарадах Польшчы.

Асновай дзейнасці былі дагэтуль лекцыі і дыскусіі. Большасць сустрэч прысвячалася польска-украінскім адносінам. Сустрэчы адкрытыя для ўсіх і прыходзяць на іх людзі з рознымі поглядамі і вопытам.

Аптымізм выклікае тое, што на сустрэчах заўважаецца перавага моладзі, не абцяжанай багажом мінулага. Ёсць намеры арганізаваць артыстычныя і краязнаўчыя імпрэзы, навуковыя семінары. Створана сваё выдавецтва „Międzymorze". „Памост" ёсць фінансаваны з членскіх узносаў і даравальных запісаў.

Мэта „Памоста" — пераадолець прадузятасці і стэрэатыпы, якія ляглі цяжарам на адносіны палякаў з суседнімі народамі, будаваць павагу і давер да іншых. Сябры „Памоста" хочуць набліжэння народаў, асаблівае значэнне прыдаюць адносінам з меншаснымі згуртаваннямі ў Польшчы. Распаўсюджваюць яны веды аб культуры і гісторыі народаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, хочуць паказаць на сувязі і супольнасці, не забываючы, аднак, тых здарэнняў, якія сталі крыніцай прадузятасцяў; хочуць пераламаць ізаляванасць нацыянальных меншасцяў у Польшчы, прапагандуючы павагу для традыцыі і акцэптацыю непазбежных розніц. Лічаць, што розніцы не мусяць супрацьстаўляць людзей, як гэта раней бывала. Сябры „Памоста" будуць процідзейнічаць праявам неталерантнасці і дзяржаўнай дыскрымінацыі, розным спробам фальшавання гісторыі, праяўленню варожасці.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

## ВАРТАСНЫЯ ВЫДАННІ

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Беларускае таварыства архівістаў і іншыя арганізацыі ў асноўным дзякуючы намаганням Беларускага кааперацыйна-выдавецкага таварыства „Адраджэнне" выдалі факсімільным спосабам значную колькасць вельмі рэдкіх, вартасных беларускіх кніжак і брашураў у асноўным з міжваеннага часу. Іх можна набыць у сакратарыяце „Нівы", можна таксама папрасіць выслаць за паштовым залічэннем. Заказы кіруйце на адрас „Ніва".

**Што трэба ведаць кожнаму беларусу** (зборнік артыкулаў розных аўтараў), Менск 1918. Цана 4,5 тыс. зл.

Акінчыц Ф., **Правакацыя беларускага народу** (Да справы Б. Тарашкевіча), Вільня 1933. Цана 2,5 тыс. зл.

Я. Станкевіч, **Гісторыя беларускага языка**, Вільня 1933. Цана 3,0 тыс. зл.

Я. Станкевіч, **Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР**, Вільня 1936. Цана 2,5 тыс. зл.

Шантыр Ф., **Патрэбнасць нацыянальнага жыцьця для беларусаў і Самаадзначэньня народу**, Слуцк 1918. Цана 2,5 тыс. зл.

Я. Станкевіч, **Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом**, Вільня 1933. Цана 3,5 тыс. зл.

З. Бядуля, **Жыды на Беларусі**, Менск 1918. Цана 3,0 тыс. зл.

Зоська Верас, **Ботанічны слоўнік** (беларуска-польска-расейска-лацінскі), Вільня 1924. Цана 4,5 тыс. зл.

М. Ільяшэвіч, **Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панавання Кацярыны II і Паўла I (1772-1801)**, Вільня 1933. Цана 3,5 тыс. зл.

**Чаго чакаць беларусам ад Польшчы.** Цана 1 тыс. зл.

**Вацлаў Іваноўскі**, 1880-1943, (Зборнік артыкулаў у сувязі з 110-годдзем). Цана 4,5 тыс. зл.

**Падарунак беларускаму жаўнеру**, Менск 1920. Цана 4,5 тыс. зл.

## АБ'ЯВА

Агульнаадукацыйны ліцэй
з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча
ў Бельску-Падляшскім
вул. Каперніка 4

Да выпускнікоў і прыяцеляў нашага ліцэя звяртаемся з просьбай: дапамажыце нам у пакупцы камп'ютэраў, патрэбных для абсталявання камп'ютэрнага класа.

Грошы просім дасылаць на рахунак:

PBK SA w Warszawie, Oddz. Bielsk Podlaski

370419-1759-131

Да вучняў восьмых класаў звяртаемся з прапановай: паступіце на навуку ў наш ліцэй у навучальным годзе 1993/94.

Апрача грунтоўнай падрыхтоўкі да экзаменаў ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы, наша школа стварае магчымасці штудзіраваць у Рэспубліцы Беларусь.

## PODRÓŻ DAREMNA ТЭРЭСЫ ЗАНЕЎСКАЙ

Пад такім інтрыгуючым загалоўкам з'явілася на чытацкім рынку кніжка небеларускай аўтаркі пра паэтаў „Белавежы". Унікальная сваім пяршынствам. Дагэтуль, таксама, пісалі — і пра Надзю Артымовічанку, і пра Яся Чыквіна, іншых, але ўсё тое распыленае па часопісах ды аказійных зборніках. **Не было літаратуразнаўчай кніжкі.**

І Занеўская стварыла яе. Сама асоба спадарыні Тэрэсы выклікае спецыфічнае зацікаўленне ў асяроддзі. Будучы палячкай, пры тым выхаванай у глыбі Мазоўша, яна сачыла за беластоцкай беларускай літаратурай яшчэ ў ліцэйскія гады. Гэту небанальную ў ёй схільнасць абудзіў бацька, патомны інтэлігент і сам педагог.

Апісвае і аналізуе паэзію Надзеі Артымовіч, Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Уладзіміра Гайдука, Зосі Сачко, Міхася Шаховіча, Віктара Шведа. У такім складзе бачыць яна паэтычны Парнас „белавежцаў"; столькі вышэй вырасла іх сярод роўнядзі дзесяткаў пачынаючых на ніве роднага мастацкага слова. Нямала як на невялікую нацыянальную меншасць, якая засяляе каляпушчанскі закутак сярэдняга ўсходу Польшчы. Дзеля некаторага жарту я падлічыў, што на кожныя тры гміны выпадае ў нас адзін добры вершапісец... Чаго наракаць? Могуць жа нам пазайздраваць таго нават культурнейшыя за нас нацыі Еўропы.

У святую нядзельку 18 кастрычніка „Белавежа" наладзіла асобны семінар, прысвечаны кнізе Тэрэсы Занеўскай. Далёка не трафарэтны, не водна-млынны, як гэта бывала. Звярніце ўвагу: на такую падзею чакалі мы блізу **сарака гадоў**, на факт грунтоўнай ды кампетэнтнай ацэнкі творчасці сяброў, замест журналісцкай лапатні і рэцэнзіяў „шрайбаваных на калене", без смаку і ладу! Чаму гэта аж так важнае? Таму, бо без літаратурнай крытыкі няма (і не можа быць) нармальнага літаратурнага працэсу, які штурхае талент да развіцця.

Ушэсце Тэрэсы Занеўскай у наша неба надалей пакідае, аднак, адкрытай справу той жа творчай крытыкі. Яна, на жаль, не ведае беларускіх якраз літаратурных традыцыяў, глядзіць на Шаховіча ці Чыквіна вачыма польскай культуры. Значыць радасць усё ж да паловы: трэба яшчэ адной Занеўскай, менавіта беларусінскай. Спадарыня Тэрэса заявіла на семінары, што такога свайго alter ego занадта начэквацъ не будзе, а заядла возьмецца сама чытаць ды пісаць па-беларуску, каб побач з польскім гасцінцам прайсці і беларускім, ад Скарыны да Васіля Быкава і Максіма Танка. Маладая і здаровая, яна дасць рады, валодаючы ўдадатак працавітасцю універсітэцкага выкладчыка. Ох, цяперашнія жанчыны, пры якіх мы, мужчыны, ужо як тыя колішнія бабы... Брава, Тэрэса!

Закончу на патэтычнай ноце: літаратурная Польшча каторы ўжо раз працягнула руку дапамогі літаратурнай Беларусі. Хацелася б, каб і мы калі памаглі ім.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

**P.S.** — Ага, назва кніжкі не мае нічога супольнага з надарэмнасцю намаганняў. Гэта метафара, якая абазначае дарэмнасць духоўнай вандроўкі кожнага з нас у свой даўні свет. Зрэшты, трэба кніжку купіць і пачытаць.

## МЫ І ЯНЫ НА "БАСОВІШЧЫ"

Мы - гэта беластоцкія, яны - гэта гарадзенска-віцебска-менскія, і іншыя, па той бок. Нібыта адной масці-пароды, нібыта беларусы, а ўсё ж такі... На "Басовішчы" сустракаюцца перш за ўсё маладыя людзі - гэта для іх арганізуецца фестываль у даволі жорсткіх варунках, з дажджом як абавязковым выпрабавальнікам арганізацыйнай спраўнасці БАСу і трываласці фанатаў беларускай рок-музыкі. Аказваецца аднак, што спадзяванні публікі наконт "Басовішча" выразна разыходзяцца... Гэта ў мяккай форме выявілася ў час першага фестывалю ў 1990 годзе, а сёлета набыло характар амаль што мастацка-ідэалагічнага непаразумення, хоць да адкрытага канфлікту яшчэ не дайшло. Яны ўсё яшчэ трактуюць **наш** музычны фестываль як форму самавыяўлення і сцвярджэння **(свае)** беларускасці, для якой як жа мала прасторы ў нібыта беларускай Рэспубліцы... А мы? Брутальна кажучы, збіраемся пад Гарадком дзеля таго, каб паслухаць добрай музыкі, папіць піва і пагаманіць з сябрамі, якіх штораз цяжэй сустрэць пры нейкай іншай нагодзе. Ім трэба каласальнае ўстрасенне нацыянальнага сумлення, а нам - месца паміж соснамі, дзе ў спрэсаванай акустычнымі накатамі атмасферы можна палашчыць выпукла-увагнутыя повабы дзявоцка-жаночай анатоміі /ці vice versa, калі глянуць на гэта з дзявоцка-жаночага боку/... Гэта, між іншым, таксама праява таго, што змяшчае ў сабе лозунг "Жыве Беларусь!" Інакш кажучы, непаразуменні маюць свой корань у экзістэнцыі, а не ў эсенцыі. Яны, непаразуменні гэтыя, трэба меркаваць, будуць згладжвацца з поступам непазбежнай культурна-побытавай уніфікацыі, якую нясе сабою будучыня...

Гэта як нейкія такія ўводзіны да водгуку Алеся Чобата на наша "Басовішча" /а дакладней - на артыкул Вітаўта Мартыненкі пра сёлетні гарадоцкі фестываль у "Чырвонай змене"/. "Чырвонай змены", акрамя як у рэдакцыі "Нівы", бадай што ніхто на Беласточчыне не чытае. Але ад гэтага тэкст А. Чобата не губляе сваёй цікавасці. Падаем яго з нязначнымі рэдакцыйнымі скарачэннямі.

**/Я.М./**

## КАПРЫЗЫ ДАРОСЛАГА ДЗІЦЯЦІ

### Прэса Рэспублікі Беларусь пра "Басовішча-92"

Артыкулы пра нядаўняе "Басовішча" змясцілі "Звязда", "Чырвоная змена" і "Літаратура і мастацтва". Усе астатнія газеты, якія часам так любяць паспачуваць сваім бедным беластоцкім братам, пакутуючым "пад Польшчай", буйнейшай культурнай падзеяй года ў тых жа замардаваных братоў чамусьці не зацікавіліся...

Што ж, вольнаму воля.

Агульны ж настрой аўтараў "беларускамоўных" менскіх выданняў - гэта нейкае расчараванне ды незадаволенасць. Хаця, магчыма, незадаволенасць з расчараваннем увогуле пануюць у гэтых рэдакцыях кожны дзень, што няцяжка зразумець - ну як маглі б адчуваць сябе супрацоўнікі трох /!/ "польскамоўных" газетаў на ўсю Варшаву?! І суверэнная тая Беларусь, і самастойная, і незалежная, а парадкі ў ёй як былі савецкія, так і застаюцца. Адным словам, ад "Басовішча" менчукі чакалі большага, чакалі, што Беласточчына выцягне іх, так сказаць, за вушы... І меў быць прагрэс!

А які тут "прагрэс"? Як і папярэднія гады - голае неба над галавой, палаткі, талоны на харчаванне, саматужнасць і энтузіязм... Вось табе і Еўропа! Да таго ж гэткія хоць і еўрапейцы, а ў параўнанні з нашым сталічным Менскам усё ж цёмныя правінцыялы, робяць, што хочуць, а нас не слухаюць аніяк! Запрашаюць, напрыклад, не таго, каго трэба, і каго мы, менскія журналісты, "адкрылі" ці "адкрыем"...

Вось і піша ў "ЧЗ" шырокавядомы сп. Мартыненка Вітаўт у артыкуле "Бесы на "Басовішчы", - а назва, назва якая "суверэнная"! - такія вось рэфлексіі: "...дзіўна было, што прыкмеціўшы двухаблічнасць некаторых беларускіх музыкаў, Шаўкевіч /менавіта так па ўсім артыкуле, праз "у кароткае", а не Шалкевіч; на "шаўку" гэта намёк, ці што? - аўт./ сам прывёз на фэст беларускай музыкі /так і прыгадвае купалаўскае з "Тутэйшых:" беларускай, между протчым, музыкі! - аўт./ англамоўны гарадзенскі гурт "Сэвэн Бі". Пшэцеж то скандаль, прошэ паньства! У Польшчу на наш беларускі фэст, на змаганне і барацьбу, валачы не свой родны менскі ці віцебскі ды беларускі нават за сцэнай гурт, але мала таго што "англамоўны", то яшчэ й "гарадзенскі"! Вось і атрымліваецца абы што, таму што як далей піша сп. Мартыненка Вітаўт, "хлопцы някепска лабалі /ах, які стыль, стыль які! Вось што значыць, калі свабода! - аўт./ стары добры гард-рок", абвесткі рабілі па-беларуску, але ў нацыянальна-адраджэнскую ідэю фэста ніяк не ўпісвалася іхняя творчая канцэпцыя /нешта недзе я ўжо такое чытаў, здаецца, пры Саветах... - аўт./. Нават калі ім у кулуарах прапанавалі на перспектыву беларускі пераклад адной з кампазіцый "Дып пэрпл", што яны выконваюць, "Сэвэн Бі" катэгарычна адмовіўся: "Не-не крый Божа! Толькі па-ангельску!"

Здавалася б, усё - здратаваў, збіў іх сп. Мартыненка. Але ж дзе там! Хіба зробіш тут адраджэнне, з нашым народам?! На другі дзень, калі быў канцэрт лаўрэатаў, аказваецца, як са смуткам піша далей сп. Мартыненка, "... выступіла і каманда "Сэвэн Бі", за якую гледачы падалі нямала галасоў". - І што жа?! - як абураўся ў такіх выпадках Мікалай Іванавіч Дземянцей. - А нічаво!..

Ды і сам Шалкевіч, аказваецца, яшчэ тая самая цаца! Думаеце, чаму ён беластоцкім так падыходзіць! А такі ж цёмны і непісьменны, як яны там усе, - на сваім "дзікім захадзе" пры лініі нябожчыка лорда Керзана... Ну бо ж у іх "лірыка менскіх бардэс Вольгі І Ланы Медзіч /яна ж Святлана Мядзведзева/ была здольная крануць за жывое, але хіба ў больш камернай абстаноўцы... нават у патрыятычнай лірыцы Сяргея Лаўніка адчувалася, што нешта адсутнічае..." - бач, не падабаецца ім ні адно, ні другое! Ім толькі гэтага свайго з крывым носам падавай /тут маецца на ўвазе, што ў артыкуле сп. Мартыненкі змешчаны фотаздымак з подпісам "Гэта не папугай, гэта Шаўкевіч, якога запісвае мясцовае радыё" - аўт./, тут, браткі-менчукі, зямля ўжо такая, рука руку мые, - зусім, як у нас, "между протчым"...

Тут яшчэ тыя парадачкі! Абяцалі за першае месца прыз 10 млн. злотых, а далі толькі 6 млн. - дзе чатыры мільёны, хачу спытаць?! І гэта пры тым, што на так прымітыўна-турыстычную, а зусім не еўрапейскую арганізацыю ажно 50 млн. бухнулі! І яшчэ будуць гаварыць, што гэта ўсё іхні БАС такі бессарэбранік, такі энтузіяст. І як ім не сорамна, як Максімюк у інтэрв'ю менскай "Звяздзе" гаворыць, што ўжо цяпер на беларускай культуры можна рабіць грошы - хто дазволіў, хачу спытаць?! На беларускай культуры беларускія грошы можна рабіць толькі на Беларусі! - зразумела, хачу спытаць?! А што не робім, то гэта наша справа...

Ат, пра што гаварыць! Калі дайшло да таго, што іхні вялікі Лёнік Тарасэвіч устанаўляе свой прыз, то ён жа сам вырашае, каму даць, а каму не! І гэта мае быць культура ва ўмовах свабоды, рынку ды дэмакратыі?! На чорта нам такая дэмакратыя...

Адным словам, жыццё "пад Польшчай" беластоцкім не паспрыяла, і цяпер яны глядзяць на свет не так, як мы - гэта значыць, не так, як мае быць. Мы тут за адраджэнне змагаемся, па Народных франтах ваюем, той шаноўны сп. Мартыненка Вітаўт, чый артыкул я крыху закрануў, па мітынгах у чорнай куртачцы бегаў з надпісам белымі літарамі "Я - беларус!", между протчым! Вось які патрыятызм дзяржаве патрэбны! А гэта - тфу! Тое, што "так востра выявілася ў гарадзенскага барда Віктара Шаўкевіча. Ягоная песня-прывітанне "Добрай раніцы, жлобская нацыя!" ускалыхнула шэрагі слухачоў /яны там што, на бачнасць, як у Войску Польскім стаялі, ці што? - аўт./, большасць падпявала кожну страфу, кожны рэфрэн..."

Думаеце, гэта проста так, ад таленту? Не-е! Гэта таму, што "... Віктара тут ведаюць і з канцэртаў, і з кампакт-касет, якія карыстаюцца, так бы мовячы, вялікім попытам...".

Уф-ф... Не магу больш гэтага цытаваць! Машынка няхай адпачне... Гэта ж трэба: з'ела іх капіталістычная рэклама наша сціплае працавітае мастацтва, і слухаюць хто што! "Жлобская нацыя", "хамская ўлада", "на сцэце - беларусы, за сцэнай - маскалі..."

Сумна мне стала пасля артыкула сп. Мартыненкі Вітаўта ў газеце "Чырвоная змена", выдаванай раней праз ЦК ЛКСМБ, а цяпер спансараванай праз ЦК СМБ альбо "союза молодёжи Беларуси", между протчым... Смутак агарнуў маю душу. Ну, даў Бог талент аднаму, а другому не... Дык прасіць яго толькі можа, каб і табе даў, а не сварыцца, што даў другому...

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

*Правінцыял з Гародні, сябрук Шалкевічаў, нават двойчы выступіў з ім разам, адна кампанія, карацей кажучы...*



*Віка Ільіна. Мал. С. Хадароўскага*

## У ЦЕХАНОЎЦЫ

Выдатны польскі мецэнат культуры Казімеж Ушынскі, дырэктар Сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы ад многіх гадоў запрашае да сябе на штогадовыя пленэры мастакоў. Забяспечаныя кватэрай, харчаваннем, у са смакам упарадкаваным наваколлі, сёлета жывапісцы маглі папрацаваць у двух турах.

На другі прыезд (22.09 — 4.10.1992 г.) была запрошана з Гродна таленавітая Вікторыя Ільіна (дачка беларускай паэткі Дануты Бічэль). За кароткі час Вікторыя напісала шэсць алейных, закончаных карцін — цудоўна-адметных з ліку 125 іншых прац, выразных у сваім прафесіянальным почырку, выклікаючых незабыўнае эстэтычнае ўражанне.

Паасобныя абразы Вікторыі экспанаваліся ўжо ў Гданьску і Познані. На другі год прадбачваецца паўторны прыезд мастачкі з Гродна на пленэр у Цехановец. Віку тут палюбілі. Аднак на гэты раз, як дамоўлена з дырэктарам К. Ушынскім, прывязе яна з сабою і іншыя свае працы. Усе яны будуць паказаны на яе персанальнай выставе ў прыгожых залах цеханавецкага Музея-палаца.

**ЯН ЧЫКВІН**

## НА мяжы

**Частка XVII**

Абвяшчэнне незалежнасці, суверэннасці Беларусі, здавалася б, павінна выклікаць у сэрцах усіх беларусаў пачуццё глыбокай задаволенасці і гонару. Вядома, што ўзнікненне Рэспублікі Беларусь дае нашаму народу зусім новыя магчымасці і стварае спрыяльныя перспектывы развіцця. На жаль, мае сялянскія размоўцы не падзялілі маёй радасці з прычыны гэтай знамянальнай даты. Большасці з іх аб гэтай падзеі нічога не вядома, а тыя, што ведалі, не прыдавалі ёй ніякага, амаль ніякага, станоўчага значэння. Усе, з кім я гаварыў на гэту тэму, акцэнтавалі не ўзнікненне незалежнасці краіны Беларусь, а толькі распад СССР. І факт гэты ўсе без выключэння трактавалі адмоўна. Ніхто з іх не рэагаваў на мае выказванні аб тым, што незалежная дзяржава стварыць нарэшце магчымасці да ўсебаковага духовага развіцця беларусаў. Размоўцы схільны былі звяртаць увагу на гаспадарчыя справы і, паводле іх, абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь не толькі не прычыніцца да развіцця здаровай беларускай эканомікі, але выкліча глыбокі крызіс беларускай гаспадаркі. Амаль сямідзесяцігадовы селянін разважае наступным чынам:

„Ты гаворыш, што тая цэла незалежнасць Беларусі, то е вялікае шчасце, а я табе скажу, што гэто наадварот — будзе прычынаю вялікай бяды. Ты ж толькі падумай, колькі ў Беларусі збудавалі фабрык, сотні, можэ тысячы. Я быў у Беларусі пры Брэжневе. Ой, жыў добрэ народ, ой жыў! Працавалі нармальна, а пілі якіе-лень карали або цары. То ўжэ былі ні тые часы, калі Сталін душыў народ. Свабодна людзі

### БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

гаварылі аб усім, Мой сваяк, да каторага я паехаў, то нават і Брэжнева называў старым дураком, і то ні толькі пры мне, але і пры сваіх суседзях. І ніхто яго на белы мядзведзі ні паслаў. Нібось, пры Сталіне то з такім не чыкаліся б. Я тады прывёз і вертарку, і пару сікераў, і вужвы да хамута, і нажы, і вілкі. А колькі я за гэто заплаціў? Кільканаццаць рублёў, от і ўсё. Дзяшоўка была такая, што свет ні бачыў, ей Богу. А цяпер то мой сын ездзіў, то што ты думаеш, за дурацкі млінок да кавы то на рынку заплаціў больш як тысячу рублёў. А ў склепах, то, кажэ, такая галыцьба, што хоць шарам пакаці, німа нічагусенькі. От табе і незалежнасць. Мы, беларусы, павінны трымацца з рускімі, бо так было ад вякоў і то цяпер так быці павінна. Цяпер як Расея не даст жалеза, бензіну, бавоўны, то вогуле Беларусі будзе хана! А гэто, што ты гаворыш аб беларускіх капіталістах, то можно расказваці дзеткам, то можэ яны паверылі б, але не я. Я знаю добрэ капіталізм, бо пахлёбаў яго перад вайною. Ці ты хадзіў у пасталах? Помніш, як яны выглядалі, і як выгодна ў іх хадзіці, калі пальцы вылазят у снег? А ты думаеш, што капіталіст будзе перажмацца тым, каб тваё дзіця бясплатна вучыласё, каб цябе бесплатно лечылі ў шпіталі? То можэш сабе здыхаці, а капіталіст нават у чобацы не кіўне пальцом. Ну, а тое, што мы гаворым пра тую незалежнасць Беларусі, то я сказаў бы, што гэто можэ і ні кепско. Ну, бо да чаго гэто дайшло? От хоць бы ў тым Валкавыску, дзе я быў у сваякоў, то ні раз мяне папраўлялі, каб я не гаварыў „цыбуля", але „лук", каб ні казаў „гайданка"але „качэлі". А навет і пасмейваліся з мяне і з маго языка. То як жэ гэто можэ быці так, каб у Беларусі рагаталі з беларускага языка? То я тут за тое, каб усё ж-такі ў Беларусі гаварылі па-беларуску. Ну, у цэркві гэто другое дзело. Тамака ніхай сабе поп правіт па-руску, бо так яно было ад вякоў, хоць і ні шкодзіло б, каб духоўные, каторы з нашых зямель, з парахвянамі гаварылі на той мові, на каторай гаворат мясцовыя людзі.

Але ў гэтай справе, мне так здаецца, то трэбо, каб людзі кіраваліся карысцю, а ні якімсьціка фокусамі. Калі беларусу большу карысць прыносіт польскі язык, то ніхай гаворыт папольску, а калі ў рускім языку больш пользы, то хай сабе говорыт па-руску. Ну, а тая незалежнасць, то вядомо, што есці яе не будзеш".

Вось гэты прынцып практычнасці ў трактоўцы такіх спраў, як незалежнасць Беларусі, выступае ў большасці беларусаў. Па сутнасці не сустрэў я ніводнага беларуса, які б ганарыўся гэтым фактам. Выключэннем з'яўляецца бацька нашага дзеяча Міхася Артысевіча з Кляшчэляў, які ўміраючы ў гэтым годзе, заявіў, што ён умірае шчаслівы, бо дачакаўся незалежнай Беларусі, якая заступіцца за ўсіх пакрыўджаных беларусаў у свеце. Дай Бог, каб перадсмяротныя словы Артысевіча-бацькі сталі праўдай.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*Якія мы людзі*

## ГРАФ

Толькі што я бачыла яго ў холе гатэля „Еўрапейскі". Так напраўду можна было яму даць гадоў семдзесят і больш, але калі б не прыглядацца, дык сышоў бы і за шасцідзесяцігодка. Хударлявы, прыемны з выгляду, з беззаганнымі манерамі. Быў апрануты ў клятчасты касцюм, а ў руцэ трымаў палачку: здаецца, больш для фанабэрыі, чым з патрэбы.

Прысеў на канапу побач са мною і спаглядаў на п'ючых каву ды алкагольныя і безалкагольныя заграні́чныя напіткі, якія прадаваліся ў адкрытым бары ў холе. На фоне замежных моў выразна выбівалася польская, рэпрэзентаваная навасьпечанымі бізнесменамі. Што можна было зразумець — усё было на тэму бізнесу.

— Ну хто яны такія, гэтыя людзі?! — вырвалася неспадзявана ў майго суседа. — Галота, пані! Во калісь дык паны былі! Całą gębą. Памятаю, як у нас у Вільні. Во дзе жыццё было! Забавы і сваволі адно ведалі. Працаваць то мы не мусілі. Толькі дурань працуе. Трэба ўмець жыць так, каб працаваць як найменш, а ўсё мець. Зрэшты, калісь у графскай сям'і не працавалі. Хапала парабкаў, мілая пані.

Я бачыла, што ў гэтай крытыцы была нотка зайздрасці. Так папраўдзе яму імпанавала гэта рознамоўная гаворка, гэты рух, дарагія каньякі, што пілі госці гатэля, ды іх добра скроеныя касцюмы. Прыйшоў жа сюды, каб паглядзець на іх.

Стары чалавек сядзеў збоку, але здавалася яму, бадай, што ён быў сярод іх. Не, не, ён не быў адным з іх, ён быў вышэй! — з-пад паўпрыкрытых веек сачылася пагарда.

Усміхнуўся да мяне, і я падумала: „Ну што ж, цяпер кожны ўдае графа. Так модна. Дзе яны былі раней, тыя графы?.."

Слухала, шануючы яго старасць. Відаць было, што ўспаміны дастаўляюць яму асалоду. Абы бы слухач. Бо цяпер... што ў яго жыцці магло быць радаснага... Зрэшты, краіна маладосці заўсёды выглядае чароўнай. Не здаваў сабе справы, што проста ўжо стары...

Вечарам гэтага дня я мела выязджаць з Варшавы і нават у галаву мне не прыйшло, што яшчэ калі-небудзь сустрэну гэтага чалавека.

* * *

Сустрэла яго зусім неспадзявана яшчэ ў той жа дзень, у бары „Прага". Ён, ці не ён? Быў у цёмнасінім паліто і капелюшы. Як і раніцай, выглядаў даволі элегантна.

Я хацела прывітацца, але чалавек не заўважыў мяне. Ён паволі прахаджваўся між доўгімі радамі вялізных сталоў і ўся яго ўвага была засяроджана на тым, што на іх стаяла.

А што на іх стаяла? Пераважна пустыя талеркі. Але не, не зусім! На некаторых з іх яшчэ заставаліся рэшткі бульбянога пюрэ, палітага соусам, салаты з бурачкоў ці кавалак варанага яйка. Дзе-ні́дзе ў глыбокіх талерках было яшчэ крыху супу.

Чалавек у капелюшы прахаджваўся так і прыглядаўся. Рантам выбраў сабе адпаведны стол, маланкава, не па-старэчы павярнуўся да вешалкі, што стаяла побач са сталом, акуратна зняў капялюш і паліто і... сеў. Сеў так, быццам заклапаў сабе месца. Маё! Крэкнуў, прыняў паставу бывальца рэстаранаў, яшчэ раз дакладна намецíў істотныя для яго пункты на стале і адным рухам, дзвюма рукамі загарнуў да сябе тыя талеркі.

Узяў у левую руку кавалак хлеба і правай пачаў есці. Цяпер ужо не спяшаўся. Еў паволі, старанна пeражоўваючы чужыя недаедкі. Еў так, быццам бы ў фешэнебельным кабаку падаў яму ўсё гэта афіцыянт па спецыяльнаму заказу. На твары яго лунала ўсмешка задаволенасці.

— Граф! Дальбог граф! — усклікнула я, і жанчына, якая абедала, седзячы на высокім табурэцe насупраць мяне, глянула на мяне са здзіўленнем.

* * *

Велькапанскія манеры — залогам нашай экзістэнцыі.

**АДА ЧАЧУГА**

## ...ПАКУЛЬ БУДУ ЛЮДЗЯМ ПАТРЭБНЫ

*Працяг са стар. 1.*

ды. Быў ужо створаны дзіцячы музычны калектыў акардэаністаў, які выступаў на розных мерапрыемствах, што арганізавала таварыства. На жаль, улады БГКТ, якія патрабавалі платы за выкарыстаную электраэнергію, не змаглі дагаварыцца з уладамі Беластоцкага музычнага таварыства, якія плаціць катэгарычна адмовіліся, і ўсё развалілася.

Ад 1984 года Сцяпан Копа вёў таксама хор пры Беластоцкім гарадскім аддзеле. Недзе да вясны гэтага года.

Штатным працаўніком Ваяводскага дома культуры (цяпер — Ваяводскі асяродак анімацыі культуры) стаў у 1987 годзе. Займаецца там фальклорнымі калектывамі, перш за ўсё беларускімі. Падрыхтоўваючы калектывы да конкурсаў і канцэртаў, часамі цэлымі тыднямі бывае па-за домам, ездзіць па Беласточчыне. Запрашае таксама і арганізуе ў рамках культурнага абмену побыт на Беласточчыне народных ансамбляў з Беларусі. За апошнія пяць гадоў былі ўжо „Лявоны" з Воранава (3—4 разы), „Гуды" і „Музыкі" (3 разы) з Гродна, „Крыніцы" з Ашмянаў, „Чабарок" з Іўя (туды вазіў „Хлопцаў-рыбалоўцаў" і паўлаўцаў), „Церніца" з Менска, „Світанак" і „Забава" з Вілейкі, „Вузлянка" з вёскі Вузла Мядзельскага раёна, а таксама „Дзіва" і „Медуніца" з Менска, якія прыязджалі на ноч Купалы, ды іншыя. Людзям па душы беларускае мастацтва.

Ужо 19-ы год даязджае музычны інструктар Сцяпан Копа ў Гарадок. Даязджае аўтобусам — а 15.30, 16.20 ці 16.50, пасля працы. Перакусіўшы хутка дзе папала, а то і насуха, у дождж ці снег едзе да сваіх харыстаў. І даязджаў заўсёды сістэматычна, хаця не заўсёды плацілі. Ведаў, што яго там чакаюць.

У Беларускім таварыстве ён цяпер не працуе. З беларускай дзейнасцю мае найбольш дачынення ў Гарадку. Сёлета з гарадоцкім хорам былі ў Гродні, у гасцях у ансамбля „Спадчына". Цяпер яны прыязджаюць у Гарадок. Два разы былі ў Бераставіцы, паехалі на ноч Купалы (у ліпені таксама) і на дажынкі ў жніўні. Яны ў Гарадок таксама прыязджалі два разы.

Неўзабаве прыедзе хор беларускай народнай песні з Замасточча, што каля Менска. Будзе ён выступаць ад 8 да 12 лістапада.

26 верасня ў Гарадоцкім доме культуры быў наладжаны юбілейны вечар, прысвечаны 25-годдзю супрацоўніцтва Сцяпана Копы з мясцовым хорам. Былі падзякі Сцяпану Копу (войт гміны, Ніна Цыванюк ад імя харыстаў), 11 песень праспяваў гарадоцкі калектыў, а пасля выступіў ансамбль „Забава" з Вілейкі. Было гэта сапраўднае свята.

Сцяпан Копа вельмі ўдзячны гэтым людзям. Старэйшыя людзі вось спяваюць, а моладзь дык немагчыма ў нас зацягнуць да працы, нешта арганізаваць, скардзіцца ён. Пройдзе пару гадоў — і канец. Ну, што ж, беларуская песня — гэта маё жыццё. Буду працаваць, пакуль буду людзям патрэбны.

**АДА ЧАЧУГА**

**ФОТА АЎТАРА**

*Сцяпан Копа і хор з Гарадка.*
**Фота з архіва**



# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



—*Я лаўлю апошняе восеньскае сонейка!* **Фота Віктара Шніпа**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### НАЧНЫЯ ГАЛАСЫ

Аднойчы пабегла мышка Пік-Пік на кухню чымнебудзь падсілкавацца. На пліце стаяў вялізны гаршчок з грэчневай кашай. Узрадавалася мышка, залезла на пліту, адкінула з гаршка накрыўку і скокнула ўнутр. Каша была смачная, і мышка выела ўсё да дна. Але назад вылезці не змагла, бо гаршчок быў вялікі. Успомніла мышка, як аднойчы гэтак жа ўшчамілася ў кавуне, і спалохалася. Закрычала:

- Ратуйце!

Мышчын голас гучаў з пустога гаршка так гучна і страшна, што ўсе прачнуліся - Мама, Тата, Веранічка, Пепіта.

- Што гэта?! Хто крычыць? - пыталіся яны адзін у аднаго, а мышка ўсё благала:

- Лю-удзі! Сю-уды!

Нарэшце ўсе спыніліся перад дзвярыма на кухню.

- Там іншапланецяне, - упэўнена прашаптаў Тата.

- Не, там Баба Юга! - сказала Веранічка.

- А мне здаецца, гэта рабаўнікі, што залезлі праз фортку, - запярэчыла Мама.

- Глупства! Я здагадваюся, хто гэта, - прабурчэла Пепіта і слізганула на кухню.

Пепіта адразу зразумела, што страшны голас ідзе з гаршка, скочыла да яго, і ўбачыла мышку Пік-Пік.

- Так я і думала! - прагаварыла Пепіта і паспрабавала дастаць Пік-Пік лапкай, але, на жаль, толькі ўпусціла гаршчок з пліты. Гаршчок разам з мышкай са страшэнным грукатам упаў на падлогу. За дзвярыма грукат пачулі таксама.

- Як ты мог адпусціць туды бедную Пепіту? Ты ж мужчына! - сказала Тату Мама. Тата пабег у калідор, узяў малаток і - на кухню. У цемры Тата спатыкнуўся аб гаршчок і з усяе сілы стукнуў яго малатком. Бедная аглушаная Пік-Пік выскачыла з гаршка і пабегла ў норку. Мама не вытрымала, праціснулася на кухню і запаліла святло.

- Што тут адбываецца?

- Ды так, - сціпла сказаў Тата, - былі рабаўнікі, толькі нейкія слабыя. Стукнуў аднаго малатком, дык і збеглі.

Мама застагнала, узяла таблетку валідола і пайшла спаць, а ў кухню насмелілася зайсці Веранічка:

- Тата, скажы, што тут было?

- Ды так, - сціпла сказаў Тата. - Баба Юга швэндалася. Стукнуў яе малатком, яна і ўцякла.

Веранічка з захапленнем паглядзела на Тату і пайшла спаць. А Пепіта, якая сядзела на пліце, фыркнула і шматзначна сказала Тату:

- Ну, я дык ведаю, што было на самай справе...

- Так, табе я магу сказаць праўду, - прашаптаў Тата. - Гэта былі іншапланецяне. Каб не стукнуў я малатком па іх лётаючай талерцы, невядома, чым бы гэта скончылася!..

Пепіта аж мову страціла ад абурэння. Тата паклаў малаток на месца і пайшоў спаць.

А мышка Пік-Пік, не ведаючы, якія жахі нарадзіла яе начная прыгода, даўно ўжо спала ў норцы.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**




## ВУЧНЁЎСКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

**ЮСТЫНА КАРАЛЬКО**

*нашай настаўніцы*
*Галене Артэмюк*

тры гады была нашай
другой мамай
таксама нас кахала
і прытуляла да сябе
і днём і ноччу
можна было прыйсці да яе
параіцца
вучыла нас жыцця
і хаця яно доўгае
- ніколі яе не забуду.

**ІМГЛА**

імгла павісла над светам
бязмежны яе край
гэта яна пакрыла
воды якія плывуць
лес які шуміць
і дамы ў нерухомасці
ў сне...

**ВОСЕНЬСКАЕ ЗМЯРКАННЕ**

вецер спыніўся
цішыня
клён толькі шуміць
- збівае ў лужыну
золата лісцяў
неба з зямлёю сустракаецца
і пакрывае яе
сваёй чарнатою

**ххх**

у нейкую хвіліну
сэрца спыняецца
пасля цяжкасці жыцця
са слязамі глядзіць
на вішні
што вісяць на галінках
- ведае:
ніколі іх не ўбачыць -
на лугі
на дрэвы
і на камень
які жыве вечна

**ВІКТАР ШВЕД**

*Дачушцы Натальцы*

**НЕ ТАКАЯ Я МАЛАЯ**

- Дарагая мая мамка,
Не такая я малая, -
Дастаю рукой да клямкі,
Сама дзверы адчыняю!

І цяпер ужо мне дзверы
Не становяць перашкоды.
Я вандрую па кватэры,
Нешта вычвару заўсёды.

**У СТЭЛАЖЫ ДЗВЕРЦЫ ВЯЖУЦЬ**

- Куды рука мая сягае,
Куды сягае зрок,
Там усё бяру, сцягаю
І рву незнарок.

Хаваць трэба, як ад кражы,
Ад маіх вачэй.
У стэлажы дзверцы вяжа
Тата ўсё вышэй.

## Дарагая "Зорка"!

Пішуць табе вучні чацвёртага і пятага класаў з пачатковай школы ў Крыўцы. Наша школа невялікая. У ёй утульна і цёпла.

Хочам табе расказаць аб адной падзеі ў школе. 15 кастрычніка да нас прыехаў аўтар з літаб'яднання "Белавежа" - Янка Целушэцкі. Мы раней пра яго ведалі толькі са старонак "Нівы". Вельмі спадабаліся нам апісанні прыроды і кароценькіх імгненняў, якія нам прадставіў аўтар.

Сустрэча праводзілася з кожным класам аддзельна. Паслухалі мы яшчэ некалькі песень з агляду "Беларуская песня", запісаных на магнітафоне. У вучняў было шмат пытанняў да госця. Потым пісьменнік падпісаў свой зборнік "Імгненні".

Мы вельмі рады гэтаму спатканню і чакаем наступных сустрэч з "белавежцамі".

На ўроках беларускай мовы мы чытаем кожную "Зорку" - казкі, вершы, апавяданні. Сёння просім, каб у "Зорцы" паявілася п'еска на навагоднюю ёлку.

Жадаем табе, "Зорка", усяго добрага!

**Вучні з Крыўца**

## АПОШНІЯ ГРЫБЫ

Лёг снег, а ў лесе вунь яшчэ колькі зялёнага колеру! Ён прабіваецца на свет смела, кідка. Зялёным полымем гарыць мох, брусьнічнік, нізкая трава. Іх прыхапіла марозам, і яны так і засталіся, якімі былі. Падыдзеш, кранеш рукою, а яны ўсё роўна як з метала вытачаныя - цвёрдыя і халодныя.

Дзівуешся яркімі колерамі на белым фоне, і здаецца, што напярэдадні нехта прыйшоў і загадаў: "Спыніся, імгненне!" І яно спынілася. Застылі ў здзіўленні елачкі, замерлі - не варухнуцца - травы, сталіся грыбы, знерухомелі галоўкі ранніку.

Але чысты колер снегу - як апраўданне ўсяму гэтаму.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

## МАЕ КАНІКУЛЫ

Я на канікулах быў у бабулі. Калі была пагода, я хадзіў купацца ў рэчцы, а калі было горшае надвор'е, мы з братам хадзілі ў лес. У лесе прыемна, холадна. Мы там збіралі грыбы, ягады. Аднойчы, калі мы ішлі па лясной дарозе, штосьці заварушылася ў кустах. На сцежку выйшаў вялікі вожык, а за ім выбеглі пяць смешных, малых. Мы дома расказалі пра нашу прыгоду. Для ўсіх было гэта цікава!

**ПАВАЛ МІШЧУК,**
школа ў Бельску

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## КАЛІ НАШЫ ПРОДКІ ПАЧАЛІ ПІСАЦЬ?

Прынята лічыць, што заснавальнікамі славянскай пісьменнасці былі ў сярэдзіне IX стагоддзя Кірыла і Мяфодзій, але ёсць звесткі аб тым, што пісьменнасць у нашых продкаў існавала і раней. Па сведчанні балгарскага аўтара канца IX стагоддзя чарнарызца Храбра, "раней славяне ня мелі кнігі, але чэртамі і рэзамі чыталі і гадалі". Пра надпісы, выкананыя старажытным славянскім пісьмом, згадвалі арабскія падарожнікі. Лінгвістычныя даныя, звязаныя з этымалогіяй слова "буква", дазваляюць меркаваць пра паходжанне гэтага слова з часоў інтэнсіўных кантактаў славян з готамі (III - V ст. ст.).

Акрамя таго, на тэрыторы, дзе жылі старажытныя славяне, быў знойдзены шэраг помнікаў невядомай пісьменнасці. Адзін з іх - надпіс на глінянай славянскай пасудзіне X - XI стагоддзяў, выяўленай пры раскопках каля вёскі Аляканава былой Разанскай губерні. Чымсьці падобны да гэтага надпісу знакі на гаршках з былога Цвярскога музея і 2 брактэатах з курганоў каля горада Корчава на Волзе. Вядомы яшчэ і такія помнікі мяркуемай старажытнаславянскай пісьменнасці, як надпісы на камені ў Бежацкім павеце Цвярской губерні, на костцы барана з чарнігаўскіх курганоў, на пячатцы кіеўскага князя Святаслава Ігаравіча, знойдзенай у Ноўгарадзе.

Некалькі таямнічых надпісаў паходзіць і з тэрыторы Беларусі. Археолаг Г. Татур паведамляў пра знаходку каменнай пліты з загадкавымі знакамі, падобнымі на адбіткі птушыных лапак, у мястэчку Пагост цяперашняга Бярэзінскага раёна. Камень з надпісамі, зробленымі літарамі невядомага алфавіту, быў выяўлены каля вёскі Пнявішчы (Пнеўшчына) Горацкага раёна. Яшчэ адзін непрачытаны надпіс быў зафіксаваны на камені каля вёскі Сынкавічы пад Зэльвай. Багаты матэрыял далі пошукі ў старажытнабеларускім горадзе Драгічыне. Было ўстаноўлена, што там у X - XIV стагоддзях знаходзілася буйная мытня, свайго роду вароты на ўсход Еўропы. Знойдзеныя ў Драгічыне шматлікія свінцовыя пломбы служылі таварнымі знакамі розных усходнеславянскіх князёў. На адным баку некаторых пломбаў змешчана літара кірыліцы, на другім - таямнічы знак. Даследчыкі мяркуюць, што гэта былі літары невядомай старажытнаславянскай пісьменнасці. Нарэшце, апошнім па часе адкрыццём у гэтым кірунку з'явілася знаходка на гарадзішчы Маскавічы каля Браслава ў пластах XII - XIII стагоддзяў прасёлкаў з нерасшыфраванымі літарападобнымі знакамі, якія падзяляюцца на 42 віды.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**




Беларускае народнае паданне „ВІТАЎТ”. Малявала Людміла Шніп.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Я з увагай чытаю ўжо шмат гадоў тваю рубрыку. Многаму ўжо навучылася з тваіх высноваў і нават сама разгадваю часамі свае сны.

І вось прысніўся мне нядаўна такі сон. Быццам папсаваліся ў мяне зубы. А адзін зуб зусім выкрышыўся. Ён быў пакрыты залатой каронкай, а зуб пад ёю разваліўся на кавалкі і па кавалках выпадаў.

Я падумала адразу, што гэта вельмі нядобры сон. Ты ж пісаў, Астроне, што калі ў сне выпадае зуб, дык абавязкова абазначае гэта хваробу ці смерць кагосьці блізкага. Калі зуб выпадае і ёсць пры гэтым кроў, значыць, будзе гэта датычыцца некага кроўнага, а калі без крыві - дык далейшага сваяка.

Я занепакоілася. Пайшла на работу. А там даведваюся, што загінула ў аўтамабільнай катастрофе наша сяброўка, якая выехала за граніцу на працу. Цяжка проста паверыць, што мой сон так спраўдзіўся. Гэта трагічная вестка на доўгі час забрала мой спакой.

**Крыся**

Даражэнькая Крыся! Сны не выбіраюць сабе тэму, як журналіст. Прадвяшчаюць нават і вельмі трагічныя падзеі, ды я б сказаў, што арганізм прадчувае нейкую пагрозу нават часцей, чым нешта добрае. Вось бачыш, сяброўка паехала па залатое руно /залатая каронка/, а з-пад яго вылезла смерць.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПЯРЭДЫ

### КВАШАНАЯ МОРКВА

На 2 кг морквы трэба ўзяць 4 дэкі солі, 4 дэкі цукру, 4 г лімоннай кіслаты, 15—20 дэкаў цыбулі, некалькі растоўчаных зярнят перцу.

Моркву памыць, зрэзаць зялёныя часткі карэнняў. Цыбулю абабраць, спаласнуць. Моркву добра абсушыўшы, нарэзаць скрылёчкамі на шаткаўніцы для гародніны. На той жа шаткаўніцы нарэзаць пер'ямі цыбулю. Соль перамяшаць з цукрам і лімоннай кіслатой, спалучыць з морквай і цыбуляй, дадаць перац і ўсё перамяшаць.

Падрыхтаваную гародніну палажыць у вывараны посуд (шкляны ці гліняны), накрыць вывараным талеркай, паставіць на яе вывараны слоік, напоўнены вадой. Пакінуць у хатняй тэмпературы, пакуль не паявіцца пена. Як толькі паявяцца першыя прызнакі ферментацыі, накрыць посуд марляй і перанесці ў халоднае месца.

Праз 10 дзён квашаніну можна есці ў якасці салаты. Можна яе таксама спырснуць алеем або перамяшаць са смятанай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ДУМКІ ДЗЕДА АНТОНА

Былі ў маім жыцці дзве жонкі. Першая памерла, калі мне было пад сорак. З другой жонкай, Гануляй, пражыў трыццаць пяць гадоў. Узяў яе маладзенькай дзяўчынай, а ў мінулым годзе расстаўся з ёю назаўсёды. Нават і не думаў, што прыйдзецца мне ў другі раз удаўцом астацца.

Ажаніўся я з ёю вельмі хутка. Вядома, без гаспадыні ў хаце, як без рук. А і не стары мужчына мае свае патрэбы. Хапіла мне таго „посту”, калі мая першая некалькі тыдняў хварэла, пакуль яе хвароба зусім са свету не звяла.

Было іх там у хаце восем дзяўчат і два хлопцы. Бацькі Ганулі быццам бы чакалі мяне і за тры тыдні згулялі мы вяселле. Маладая, прыгожая дзяўчына стала маёй жонкай. З часам розніца ў гадах заціралася, але спярша не адзін кавалер да яе прысядаў, а мяне дзядзькам называў.

Аднак ад цяжкай работы мая прыгажуня хутка з дзяўчыны перамянілася ў вясковую бабу. Нарадзіла яна мне двое дзетак, але слабенькія яны былі і пажылі ўсяго па некалькі месяцаў.

З першай жонкай у мяне дзяцей не было, з другой былі, але вельмі рана паўміралі, Я, стары дуб, астаўся без сваіх нашчадкаў, хаця цяга да жанчын з'явілася ў мяне даволі рана. Нават і цяпер, калі прыйдзецца што да чаго, патраплю яшчэ быць мужчынам. Пачала нават у апошні час прыходзіць да мяне трыццацігадовая прыгажуня Ліля, але суседка, старая качарга, абазвала яе самымі найгоршымі словамі і з тае пары яна больш не заходзіць. А мне да яе заходзіць няма як. У Лілі мужык п'яніца і можа не ўшанаваць старыя косці.

Тая суседка, пра якую я ўспамінаў, вельмі цікавіцца тым, што я раблю. Нават прапанавала, каб мы „запісаліся”. Але я ёй не веру, бо яна хіба толькі на маю хату і на грошы на ашчаднай кніжцы спаглядае. Кажа, каб я на яе хату перапісаў, то да смерці апекавацца мною будзе. Дасць Бог то і да канца сваіх дзён на ўласных нагах хадзіць буду, а не дасць, тады пабачым. Тая суседка так мне надаела, што ўжо глядзець на яе не магу. „Ты, стары пень, перапішы ўсё на мяне і здыхай хутчэй”, — пэўна думае яна. Але паглядзім, хто першы на тую горку за вёскай выбярэцца. Сіл у мяне яшчэ хапае і дроў нарубаю, і бульбу сабе звару. Тая суседка, аднагодка маёй Ганулі, а я ж яе, як ужо гаварыў, у мінулым годзе пахаваў.

**ДЗЕД АНТОН**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

Каб не было непрыемнага паху ў кухні, калі гатуецца капусту, пакладзіце ў каструлю кавалак хлеба.

*

Калі цеста паднялося, а печка яшчэ не гатова, накрыйце цеста добра змочанай паперай — яно не будзе больш падыходзіць.

*

Перад тым, як смажыць мяса, рыбу, бульбу або гародніну, абавязкова падсушыце іх сурвэткай — у час смажання набудуць яны прыемнае чырванаватае адценне.

**А. ПРАЛЕСКА**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4049. Валянціна Сідорская /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4050. Мар'я Максімюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4051. Мікалай Маркевіч /Бельск-Падляшскі/ | - 10.000 зл. |
| 4052. Надзея Мордань /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4053. Надзея Татарыновіч /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4054. Надзея Гіншт /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4055. Рамуальд Гіншт /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4056. Зінаіда Яканюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4057. Галіна Назарук /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4058. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэста ў Кляшчэлях | - 987.600 зл. |
| 4059. Ахвяраванні сабраныя падчас пешага рэйду тэатраў "Жывое слова" і "Балаган" | - 271.920 зл. |
| 4060. Ахвяраванні сабраныя на фэсце ў Нарве | - 308.700 зл. |
| 4061. Ян Кабац /Беласток/ | - 600.000 зл. |
| 4062. Ахвяраванні сабраныя на фэсце ў Чыжах | - 444.000 зл. |
| 4063. Мікалай Міхалюк /Чыжы/ | - 10.000 зл. |
| 4064. Ян Скепка /Гайнаўка/ | 100.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## КАЗКА БАРЫСЛАВА РУДКОЎСКАГА

Цяжка паверыць, што інжынер Барыслаў Рудкоўскі так лёгка абмануў працаўнікоў „Нівы”, пішучы нейкія сенсацыі пра пабыўку Пятра Байко ў Лівіі („Ніва”, н-р 41). Здаецца, што журналісты людзі адукаваныя, а паверылі ў казку Рудкоўскага. Відаць, Байко пажартаваў і расказаў свайму сябру прыдуманую гісторыю з пабыўкай у Лівіі, або і Рудкоўскі сам яе выдумаў.

Гэта праўда, што ў Лівіі сабак не любяць і лупцуюць іх пры кожнай нагодзе. А прычына гэтай нянавісці да сабак у тым, што калісьці адзін з іх укусіў за пяту самога Магамета. Сабака пакрыўдзіў прарока і па гэтай прычыне арабы не ядуць сабачае мяса. Не ядуць нават свініны, а толькі бараніну. Дык чаму ж частавалі сабачынай Пятра Байко? Не веру таксама, што наш герой крычаў, калі яго білі, на сваёй роднай мове — „мове крывічоў”. Нават падчас з'ездаў карэспандэнтаў „Нівы” ён гутарыў па-польску, дык якім цудам у Лівіі крычаў па-беларуску?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**





## КАСЯК НА "А"

**Управа:** 1/ аблога як ручка, а ў сярэдзіне фруктовыя дрэвы, 2/ ахапліванне рукамі, а часам нагамі, 3/ заглядае ў вочы, 4/ рака ў Паўднёвай Амерыцы, 5/ паміж актамі, 6/ вечна трывожнае дрэва.

**Улева:** 7/ першая - я, другая - ты, а трэцяя - яна, 8/ адпраўка чагосьці назад, 9/ два шкельцы з аглабелькамі, 10/ недакладная рыфма з насякомым упачатку, 11/ быць не сабой, гэта яе прафесія, 12/ драпежная рыба нашых вадаёмаў.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.



НІВА

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

# МАКАТРАЗМЫ

### ГНУТКІ

Яго ляпілі абставіны,
З торнай не збіўся сцежкі
І на дыбкі пастаўлены
- Прэстыжныя браў прамежкі.

### ДЭМАКРАТ

Разам з пакаяннымі стогнамі
Дэмакратычна свяціў сцёгнамі.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ЖАРТЫ „ПЛЭЙБОЯ"

Юнак з дзяўчынай ляжаць у ложку і курыць. Раптам яна кажа:

— Дарагі, давай пабярэмся шлюбам!

— Дык хто ж нас возьме, каханая, — задумена адказвае ён.

* * *

Муж скардзіцца сексапатолагу на тое, што жонка ў ложку да ўсяго абыякавая.

— А вы паспрабуйце заняцца з ёй гэтым у нечаканым месцы, — раіць той. — Напрыклад, проста ў дзвярах, калі яна вам адамкне.

На наступны дзень муж расказаў, што выканаў гэту параду.

— Ну!? — зацікаўлена пытаецца сексапатолаг. — Як на гэта адрэагавала ваша жонка?

— Ды яна то ніякавата, як і заўсёды. А вось яе сяброўкі, з якімі яна якраз гуляла ў брыдж, проста шалелі.

* * *

Адна дзяўчына кажа сяброўцы ў бары:

— Калі я не буду ў ложку да адзінаццатай, дык пайду дадому.

* * *

Двое маладых мужчын сядзяць у рэстаране. За суседнім столікам яшчэ адзін мужчына прагна есць вустрыцы.

— Ты чуў байку, што вустрыцы нібыта павышаюць палавую патэнцыю? — пытаецца адзін з сяброў.

— Так, але чаму байку?

— Таму, што ўсё гэта хлусня. Я ўчора з'еў дзесяць, але спрацавала адно сем!

* * *

У аўтасалоне ля шыкоўнага спартыўнага аўтамабіля:

— Гэты аўтамабіль разганяецца да 200 міль у гадзіну за 30 секунд, а спыняецца з першым націсканнем на тормаз.

— А потым?

— Потым з'яўляецца прыгожы сціэорык, які акуратна сашкрабае вас з лабавога шкла.

* * *

Муж прыходзіць дадому і, смеючыся, кажа жонцы:

— Ведаеш, дарагая, наш ліфцёр толькі што сказаў мне, што быццам пераспаў з усімі жанчынамі нашага блока, акрамя адной.

— Пэўна то надзьмутая місіс Грэй з восьмага паверха, — пасля хвіліннай развагі адказвае жонка.

*З англійскай мовы пераклаў*
*АЛЕСЬ К.*

# НАВУКА




*Малюнак П. Козіча, тэма Я. Бусла.*

## ПА ВОЎЧЫХ ЗАКОНАХ

Пад апладысменты прысутных воўк заняў крэсла галоўнага суддзі. Пабарабаніў хвастом аб стол — папрасіў цішыні. Шэрыя яго вочкі забегалі па палянцы, дзе сабраліся амаль усе насельнікі лесу.

- Так-с-с, пачнём-м-м, - прамовіў ён. - Прашу клікаць Варону.

Праз хвіліну прыляцела Варона. Воўк зірнуў на яе, нібы конь з-пад дугі, і пацікавіўся:

- Як пажываеш?

- Ды нічога сабе. Дзякуй Богу, ніхто не крыўдзіць.

- Гэта добра. А скажы мне, даражэнькая, на каго ты ўсё каркаеш? Што, табе няма чаго рабіць? А то дакаркаешся, на сябе бяду наклічаш.

- Ці ж я вінаватая, што прырода так надзяліла, - паспрабавала апраўдацца Варона. - Добра было б і салаўём заспяваць, але апрача "кар-р-р" нічога не атрымліваецца.

- Калі трапіш у мае лапы, то заспяваеш яшчэ лепш за Салаўя. Уцяміла?

- Ага...

- А цяпер Салаўя сюды! - загадаў Воўк.

- Я тут, - пачуўся ціхі галасок.

- Сядай на лаву падсудных, - строга загадаў галоўны суддзя. - Хай паглядзяць усе, хто баламуціць лес.

- Я-я-я... нікому нічога благога не зрабіў, - збянтэжыўся той. - Нават вады не замуціў.

- А хто ж нам тады з раніцы спаць не дае?

- Нараджаюцца ў сэрцы песні. Вось і спяваю...

- Спяваеш? А хто цябе просіць? Ты каго ўслаўляеш: мяне, ці маю хеўру?

- Не-е-е. Не вас...

- Значыць, я ў табе не памыліўся...

Воўк глянуў на Салавейку так, што той ажно прысеў, ды канстатаваў:

- Была б хоць птушка... А то сам з пазногаць, а голас - хоць вушы затыкай. Папярэджваю: не па тых нотах спяваеш. Не паслухаешся - твая песня будзе апошняя.

Салавейка хацеў нешта сказаць, але ад хвалявання не мог і слова вымавіць.

- А дзе Сарока? - прыўзняўся з-за стала Воўк. - Зараз мы ёй такую прачуханку наладзім...

- Няма яе, - выгукнуў нехта.

- Чаму?

- Як даведалася пра суд, то захварэла: аглухла і анямела.

- Вось і добра. Нам якраз такія жыхары і патрэбны...

Воўк крыху падумаў, памацаў лоб і выдыхнуў на поўныя грудзі:

- На гэтым судовае пасяджэнне аб'яўляю закрытым. Прашу ўсіх зрабіць з яго правільныя высновы - жыць толькі па нашых законах.

**МІКОЛА ПАДАБАЕД**

## ТАКСАМА ЦІКАВА

Гэты анекдот прыпомніўся мне, калі прачытаў я занатоўку /А-ЦЯ/ ў "Ніве" н-р 39 аб імёнах людзей у розных краінах. У сувязі з гэтым хачу я аўтару занатоўкі "Мала, але цікава" задаць такую вось загадку.

Тры шведы адпачывалі ў чэшскім курорце Карлавы Вары і там пазнаёміліся з трымя вельмі прыгожымі дзяўчатамі. Супольна праводзілі яны час, хадзілі на танцы і ў кафэ, гулялі па парку. Яны так моцна сабе спадабаліся, што гатовы былі жаніцца. Але калі шведы даведаліся, якія прозвішчы ў чэшак /а былі гэта прозвішчы хлопцаў, толькі навыварат/ - адракліся іх. Шведскія юнакі называліся: Ларс, Ларсен і Ларсанен. Як тады называліся чэшскія прыгажуні, якія так напалохалі шведаў?

**В.П.**

## БАРАХЛО

На вяселлі - мёд ракой...
Васемнаццаць - маладой,
маладому - сорак пяць,
пазяхае - хоча спаць.
І на хлопцаў нежанатых
пазірае вінавата:
вы ўжо мне, маўляў, прабачце,
што ў мяне - кватэра, дача,
не "драўляныя" рублі,
а машына "Жыгулі",
залатыя бранзалеты,
футра,
замша
і шаўкі...

Барахло?
Але ж за гэта
прадаюць душу жанкі...

**ХВЕДАР ЖЫЧКА**

## НА КУРОРЦЕ

Адзін курортнік напісаў на скале ля мора: "Быў я тут з жонкай. Цудоўна! Ваня".

Праз нейкі час побач з'явіўся яшчэ адзін надпіс: "Быў я тут без жонкі. Намнога лепш! Вася".



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Калі ўзяла я яго да сябе, не думала, што будзе. Кахала яго і ўсё. У чужым горадзе я была вельмі самотная, адчувала сябе старой і нейкай недалужнай. А ён унёс у маё жыццё шмат радасці і аптымізму.

Быў намнога маладзейшы за мяне, больш як на дзесяць гадоў, і я ад пачатку разумела, што ён маім мужам быць не можа. Няма моцных, я меркавала, што калісьці сустрэне дзяўчыну, у якую закахаецца, і кіне мяне. Каханне ж не вечнае. А я не буду мець нават шанцу, каб тым жа яму адудзячыцца. Каму я буду патрэбная, такая старая.

Яму імпанаваў мой інтэлект, любіў аглядаць мяне ў модная вопратцы, цешыўся, калі я ішла да цырульніка. Я зманіла б, калі б сказала, што ён перайшоў да мяне жыць дзеля выгады. Відаць было, што і ён кахаў мяне.

Нам добра было разам. Я вучыла яго пазнаваць жыццё, дзялілася сваім жыццёвым вопытам, прачытанымі кніжкамі. Ён быў найдасканалым у свеце каханкам і вельмі здольным вучнем. Ну, і так жылі мы: муж - не муж, жонка - не жонка. Усе ўспрымалі нас за пару, хаця і ён, і я ўжо былі разведзеныя. Мая дачка маладзенькая выйшла замуж і выехала за граніцу, а я адна засталася ў Варшаве. Тут у мяне была кватэра і праца. Яго жонка /на двое дзяцей плаціў аліменты/ выйшла замуж за ягонага сябра і таксама не пераймалася бацькам дзяцей. Зрэшты, жаніўся ён у 19 гадоў. Што ён тады мог ведаць пра жыццё і каханне. Мо таму яго жонка так хутка і пацешылася.

Ну, што ж, часамі я пры ім расцвітала, адчувала сябе таксама дваццацівасьмігодкай і поўнай веры ў жыццё. Але часамі... Часамі мне здавалася, што я нікчэмная старуха, якая марнуе час гэтага хлопца... Асабліва часта я адчувала сябе так, калі мы паяўляліся ў кампаніі маладых людзей, дзе было поўна смеху, свабоды і весялосці. Гледзячы на іх звінныя целы і радасную ўсмешку, я пачынала сумнявацца, ці наогул павінна была паяўляцца ў гэтай кампаніі. Рабілася зайздроснай. Мне здавалася, што кожная маладая дзяўчына хоча яго адабраць у мяне. Я ўсё разумела, але, калі мы вярталіся дахаты, станавілася агрэсіўнай у адносінах да яго.

Ну, і сталася. Адыйшоў, жаніўся. Выехаў з жонкай у іншы горад. Я адна. Яшчэ больш самотная, чым калікалечы. Сэрцайка мілае, навошта мне было ўсё гэта, скажы? І са здароўем усё горш.

**ТАЦЦЯНА**

Даражэнькая Таццяна! Але што ад жыцця ўзяла - тое тваё. Лічацца нават моманты і секунды. Каханне немагчыма закляпаць на цэлае жыццё. Усё змяняецца - і пачуцці таксама, хаця часамі яны трываюць вельмі доўгі перыяд.

У тваім выпадку былі пачуцці, але не было, відаць, гармоніі душы і цела. Вас раздзяляў узрост, хаця ў нейкай ступені вы дапаўнялі адзін другога. Ты старэла, а ён быў яшчэ як малады бог, ты хацела ўжо, можа, адпачыць, а яму марылася, каб пабрыкаць.

Найважнейшая ва ўсім — гармонія.

**СЭРЦАЙКА**

 